## Палякі Маладзечна — за дзяржаўнае аднамоўе

У кастрычніку мінулага года ў Маладзечне створана грамадская арганізацыя «Саюз палякаў Беларусі імя Тамаша Зана». Імя беларуска-польскага патрыёта ўзята не выпадкова. Ён нарадзіўся ў Мясаце ля Маладзечна, гарадская гімназія некалі насіла яго імя. Сімвалічна і тое, што Тамаша Зана лічаць сваім патрыётам і беларусы, і палякі.

Маладзечанскія палякі адназначна падтрымліваюць сёння дзяржаўнасць беларускай мовы. Не да твару дзяржаве, якая мае багатую гісторыю, сваю родную мову, карыстацца іншай дзяржаўнай мовай. Так званае двухмоўе — шлях да знішчэння кволых парасткаў адраджэння, якія трэба ўсяляк падтрымаць. Павагу заслугоўвае толькі тая дзяржава, якая мае сваю ўласную нацыянальную годнасць!

Ад імя праўлення Саюза палякаў Маладзечна імя Тамаша Зана Таіда АКУНЕВІЧ.

## Новыя назвы гарадскіх вуліц

Не так даўно шмат якім вуліцам Маладзечна былі вернуты іх спрадвечныя назвы, а некаторыя атрымалі тады імёны ў гонар выдатных дзеячаў гісторыі і культуры нашай Бацькаўшчыны.

Нядаўна ў гарвыканкаме зноў адбылося пасяджэнне тапанімічнай камісіі. Па прапанове яе старшыні сп. В. Косткі і адпаведных рэкамендацый гарадскога аддзялення ТБМ імя Ф. Скарыны завулкі Танкістаў і Астроўскага былі пераназваны ў гонар Уладзіслава Галубка і Язэпа Лёсіка, а вуліцы Танкістаў і Суворава — ў Цвідоўскую і Ушацкую. Вуліца ж Астроўскага цяпер будзе насіць імя выдатнага беларускага абаронцы Айчыны ў сярэднявеччы Канстанціна Астрожскага.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

г. Маладзечна.

## Першая нацыянальная канферэнцыя «ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСКАЙ НАВУКОВАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ»

Па ініцыятыве Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны з удзелам Міністэрства інфармацыі і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Акадэміі навук Беларусі, Беларускай энцыклапедыі, Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны 4—6 траўня 1994 года ў г. Менску адбудзецца Першая нацыянальная канферэнцыя «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі». На ёй будуць разгледжаны практычны вопыт айчыннай тэрмінатворчай дзейнасці, пытанні распрацоўкі беларускай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі, укладання рознагаліновых слоўнікаў.

Аргкамітэт канферэнцыі просіць паведаміць пра намер удзельнічаць з прыкладаннем назвы даклада (паведамлення) і кароткай анатацыі зместу аб'ёмам да 200 знакаў. Анатацыі мяркуецца змясціць з Праграме канферэнцыі, а даклады і разгорнутыя паведамленні — надрукаваць у спецыяльным выніковым зборніку.

Просім удзельнікаў канферэнцыі даслаць таксама звесткі пра сябе: імя і прозвішча, месца працы і пасада, навуковая ступень, навуковае званне, службовы і хатні тэлефоны.

Заяўкі на ўдзел прымаюцца да 1 сакавіка 1994 года на адрас: 220005, Менск, вул. Румянцава, 13. ТБМ імя Ф. Скарыны, аргкамітэт тэрміналагічнай канферэнцыі.

Даведачныя тэлефоны: 33-25-11, 39-50-61, 39-44-77.

АРГКАМІТЭТ.

*МЕРКАВАННІ*

# ТРАЯНСКІ КОНЬ ІЛЖЭПАТРЫЁТАЎ

Зараз на старонках перыядычнага друку нярэдка можна сустрэць выказванні, якія патрабуюць выхоўваць маладое пакаленне на традыцыях гістарычнага мінулага. Пры гэтым на ўвазе маецца толькі савецкі перыяд, а моладзь заклікаюць любіць абстрактнае «Отечество», шанаваць савецкі патрыятызм і інтэрнацыяналізм. Некаторыя «навукоўцы» нават засцерагаюць, што выхаванне ў моладзі нацыянальна-патрыятычных пачуццяў, адданасці Беларусі-Бацькаўшчыне нібыта прынясе вялікую шкоду, затармозіць працэс нацыянальнага адраджэння, бо пасее варожасць з боку нацменшасцей.

Відавочна, што такія прыхільнікі «абстрактнага» патрыятызму маюць на мэце і надалей захаваць на Беларусі нізкую нацыянальную свядомасць грамадзян. Тэарэтыкі «філасофска-навуковага» абгрунтавання прыярытэту абстрактнага патрыятызму над патрыятызмам нацыянальным дружна пяюць дыфірамбы славутай талерантнасці беларусаў, каб працягваць трымаць у духоўным ачмурэнні беларусаў, каб не даць нам магчымасці ўзняцца з каленяў.

Лічу, што распаўсюджванне такога ілжэпатрыятызму будзе толькі садзейнічаць далейшаму укараненню нацыянальнага нігілізму.

У «Народнай газеце» 16 лістапада летась быў надрукаваны артыкул «Цэнтрызм — шлях да сапраўднай дэмакратыі». Аўтар — Сяргей Гайдукевіч, старшыня так званага «Народнага руху Беларусі». Заснавальнік, ідэолаг і галоўны тэарэтык новаспечанага руху ў сваім артыкуле выкладае ідэю «народна-патрыятычнага цэнтрызму». У згаданай дактрыне няцяжка ўбачыць дамінанты таго самага абстрактнага патрыятызму, які нібыта ўласцівы ўсім славянам.

Не будзем дэталёва аналізаваць артыкул тав. С. Гайдукевіча, бо абвяргаць казуістыку і сафістыку — занятак няўдзячны і нудны. Стваральнік новай філасофскай канцэпцыі «узбагаціў» філасофскую навуку новым тэрмінам — «антыэліта». Каго ў першую чаргу мае на ўвазе аўтар артыкула пад гэтым тэрмінам? Вядома, БНФ, дэмакратычную плынь, нацыянальна-адраджэнскія сілы, усіх, хто паслядоўна выступае за ліквідацыю таталітарнай сістэмы. Дарэчы, прадстаўнікі антыэліты, на думку С. Гайдукевіча, разам з мафіёзнымі структурамі быццам бы «...спрабуюць шляхам гіганцкага перадзелу ўласнасці зрабіць незваротным ператварэнне славянскіх дзяржаў у паўкалоніі Захаду». І далей: «Антыэліта складаецца з вельмі разнавідных асоб: амбіцыйных палітыкаў, прадажных чыноўнікаў, прадстаўнікоў спекуляцыйнага кампрадорскага бізнесу і г. д., але яна строга зарыентавана на сепаратысцкія сілы, на канфрантацыю, на выцясненне з уладных структур сумленных і прыстойных кіраўнікоў». Гэтая тырада — беспадстаўная дыскрэдытацыя лідэраў палітычных, нацыянальна-дэмакратычных партый і грамадскіх арганізацый, якія цвёрда стаяць на пазіцыях нацыянальнага адраджэння Бацькаўшчыны. Яна разлічана хіба толькі на людзей наіўных і недасведчаных, бо, як вядома, лідэры нацыянальна-дэмакратычнай плыні не маюць ніякага дачынення да «прадажных чыноўнікаў» і «мафіёзных структур». Але што зробіш, тут спрацаваў духоўны фенамен ідэалогіі бальшавізму: шматлікія недамоўкі і дэзінфармацыя выліваюцца ў стопрацэнтны падман.

Што да нацыянальнай дзяржаўна-патрыятычнай эліты на Беларусі, то пасля фізічнага вынішчэння сталінлшчынай тых, хто стаяў ля вытокаў беларусізацыі ў 20-я гады, яе фактычна не было. Усе рэспубліканскія партбосы розных рангаў, уплывовыя дзяржаўныя чыноўнікі верна служылі крамлёўскім уладарам, як маглі, ганьбавалі родную мову і нацыянальную культуру, бэсцілі гістарычную спадчыну народа, апантана прапаведавалі «звышінтэрнацыяналізм», з халуйскай пакорлівасцю садзейнічалі хутчэйшаму «зліццю» беларускай нацыі са «старэйшым братам».

Увогуле аб нацыянальнай свядомасці і патрыятызме сучаснай урадавай эліты і дэпутацкага корпуса нашага Вярхоўнага Савета гаварыць цяжка і балюча. Там па-ранейшаму пераважаюць антыдзяржаўныя падыходы да ўсіх без выключэння праблем. А «тэарэтык» і дэпутат С. Гайдукевіч так «заклапочаны» лёсам беларускай мовы, што для «падтрымкі» яе прапануе... «дзяржаўнае двухмоўе»! А каб нацыянальны арганізм дужэў і развіваўся, С. Гайдукевіч прапануе беларусам рынуцца на «перaадоленне сепаратысцкай ізаляцыяністкай дамінанты ў масавай свядомасці, накіраванне яе да плённай, вялікай ідэі славянскага братэрства, славянскага патрыятызму».

Але ж паколькі адзінай славянскай дзяржавы, як сведчыць гісторыя, нідзе і ніколі не існавала, то, натуральна, паняцце «славянскі патрыятызм» — штучны алагізм самога аўтара. Зрэшты, мяркуйце самі: як можна быць патрыётам той дзяржавы, той бацькаўшчыны, якой у свеце ніколі не існавала?

Дарэчы, сама канцэпцыя «славянскага патрыятызму» не арыгінальная і не новая. Яна цалкам спісана з салжаніцынскага твора «Как нам обустроить Россию».

Лічу, што ідэя славянскага патрыятызму — чарговы Траянскі конь ілжэпатрыётаў для нашага нацыянальнага Адраджэння. Таму, якімі б лісліўымі фразамі ні прыкрываліся нашы «дабрадзеі», у якія б маскі ні ўбіраліся, задума і мэта ў іх адна. Яе можна сцісла выказаць словамі з вядомай паэмы «Сказ пра Лысую гару»: «Яны даўно былі гатовы ажыццявіць святы парыў: ліквідаваць дашчэнту мову, якой Купала гаварыў». Затым адправіць беларускі этнас у небыццё, назаўжды сцерці, нарэшце, з палітычнай карты свету назву нашай нацыянальнай дзяржавы.

Васіль СОКАЛ.

## ЖЫЦЦЁ ТАВАРЫСТВА

ПОЛАЦКАЯ гарадская рада ТБМ накіравала ў Вярхоўны Савет рэспублікі ліст пратэсту супраць спроб надаць расійскай мове статуса дзяржаўнай. Ліст падпісаны старшынёй Полацкай рады Таварыства Т. Гарэлікавай.

* * *

У ЖЛОБІНЕ адбылася канферэнцыя аб'яднанай раённа-гарадской рады ТБМ. У адпаведнасці з просьбай старшыні арганізацыі А. Іванькова ён быў вызвалены ад пасады. Новым старшынёй Жлобінскай рады абраны супрацоўнік мясцовай газеты «Новы дзень» М. Шуканаў. Быў абноўлены склад самой рады, колькасць сяброў якой скарацілася з 15 да 13.

## ВЕСТКІ З ВІЛЕНШЧЫНЫ

Рускія ў Летуве аб'ядноўваюцца. Лідэры 20 рускіх абшчын і таварystваў Летувы падпісалі сумесны мемарандум, Дэкларацыю па склікканні Устаноўчай канферэнцыі рускіх абшчын і таварыства Летувы (КРООЛ), выбралі выканаўчы камітэт на чале з айцом Нікольскай царквы г. Вільні Васілём Навінскім. Праўда, сюды з-за асабістых і палітычных амбіцый не ўвайшлі такія арганізацыі, як Рускі культурны цэнтр, Руская абшчына Летувы, Рускі благачынны фонд у падтрымку рускай культуры. Галоўнае прызначэнне КРООЛа — еднасць, кансалідацыя раздробленых сіл для вырашэння агульных праблем.

ТБМ імя Ф. Скарыны будзе падтрымліваць кантакты з гэтым аб'яднаннем.

Нешта падобнае такому аб'яднанню патрэбна і для беларусаў Летувы, але лідэры віленскай «Сябрыны», на жаль, не хочуць ісці на гэта, спасылаючыся на існуючое толькі на паперы «Каардынацыйную Раду беларускіх згуртаванняў і арганізацый Летувы». Усё ж для беларусаў Летувы, як паветра, патрэбна праводзіць з'езд і кансалідаваць свае нешматлікія сілы.

* * *

У Вільню на экскурсію прыязджала група беларусаў у складзе 15 чалавек на чале са старшынёй ТБМ імя Ф. Скарыны «Прамень» (г. Рыга) сп. А. Карповічам. Нашы сябры пазнаёміліся з Вільняй, яе гістарычнымі і культурнымі помнікамі, расказалі пра сваю дзейнасць.

* * *

ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага краю ў в. Вашунава Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці адкрывае гісторыка-этнаграфічны музей «Засцянковая хатка» і бібліятэку пры ім. Дамоўлена з памяшканнем (сялібай), ёсць шмат экспанатаў і рэчаў з сялянскага жыцця, збіраюцца кніжкі на роднай мове. Праведзена арганізацыйная работа ў гэтым кірунку. Выбрана рада музея, прызначаны дырэктар і вартаўнік. Неабходныя дакументы накіроўваюцца ў мясцовыя органы ўлады для рэгістрацыі, а таксама ў Менск.

Дарэчы, з РАУС Докшыцкага раёна атрыман ліст, але не на дзяржаўнай, а на расійскай мове, і гэта ўжо не першы раз.

Першыя крокі да адкрыцця беларускай школы ў Вільні зроблены. З верасня г. г. у сярэдняй школе № 17 (рускамоўнай) адкрыты V—X класы для беларусаў, якія сюды ездзяць з усяго горада. Некаторыя прадметы ўжо выкладаюцца на беларускай мове. Гісторыю на роднай мове выкладае Сяржук Вітушка, былы лідэр менскай «Талакі», а біялогію — Павел Саўчанка, былы настаўнік Кралеўшчынскай СШ Докшыцкага раёна.

Але да сапраўднай беларускай школы яшчэ далёка. З гімназіяй нічога не атрымалася, не хапіла зладжанасці дзеяння ў актывістаў беларушчыны.

Галоўнае, што беларусы Віленшчыны ідэю беларускасці падтрымліваюць, і гэта радуе. Як кажуць, працэс пайшоў, хоць наперадзе яшчэ многа цяжкасцей і перашкод.

Інфармацыйная служба ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага краю.

 



# ПАТОК ПАГРАЖАЕ ПЕРАТВАРЫЦЦА Ў ПАТОП

*НАРОД*



Мы не адкрываем нічога новага, у многіх краінах і прэса і сур'ёзныя палітыкі пра гэта гавораць, толькі ў «памяркоўнай» Беларусі пакуль ціха. Некалькі разоў, праўда, дэпутаты ад апазіцыі спрабавалі звярнуць на праблему ўвагу Вярхоўнага Савета, але там большасць занята, здаецца, толькі прывілеямі. Паміж тым падзеі развіваюцца імкліва. Паводле прагнозу Дзяржаўнай міграцыйнай службы, да канца 1993 года на Беларусі бежанцаў з месцаў узброеных канфліктаў і вымушаных перасяленцаў апынецца каля 25 тысяч. Гаворка ідзе пра тых, хто зарэгістраваны, аднак з прычыны прававога вакууму і «празрыстасці» нашых граніц з краінамі СНД, хутчэй за ўсё трэба арыентавацца на сотні тысяч чалавек. У бліжэйшы ж час гэтая лічба можа вельмі хутка вырасці нават на парадак.

*«Па нашых прагнозах на тэрыторыі рэспублікі знаходзіцца 100—150 тысяч грамадзян дзяржаў СНД, Азіі і Блізкага Усходу. Большасць з іх не зарэгістравана. Так, дырэкцыяй саўгаса «Обаль» Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці прынята на работу 190 асоб таджыкскай нацыянальнасці, якія таксама незаконна прыбылі на тэрыторыю рэспублікі. І гэта не адзінкавы прыклад».*

*З адказу Дзяржаўнай міграцыйнай службы Рэспублікі Беларусь на запыт народнага дэпутата Вярхоўнага Савета Галіны Сямдзянавай ад 4 лістапада 1993 г.*

Канешне, усіх шкада. Іншая справа, што Беларусь можа рэальна. Асабліва ўлічваючы неўпарадкаванасць яшчэ і нашых «чарнобыльцаў». Таксама ахвяр кампартыйнага эксперымента. Савецкая імперыя, падобна чарнобыльскаму атамнаму рэактару, таксама ж умацаванаму больш ідэалагічным шаманствам, чымся цвярозым навуковым разлікам, пакуль знаходзіцца ў першым перыядзе свайго распаду на суверэнныя дзяржавы. Наступны этап — стыхійнае імкненне іх насельнікаў да адноснай нацыянальнай аднароднасці (відаць, хутчэй па мове і культурных прыярытэтах, чымся па «крыві») толькі распачаўся і можа цягнуцца доўга, асабліва пры наяўнасці перашкод. Што гэта непазбежна, некаторыя чыноўнікі разумелі яшчэ напачатку года, хаця тады былі больш рэальнымі мары праімперскіх сіл аднавіць Савецкі Саюз. Мы пісалі ў «Нашым слове» ў сярэдзіне лета, як чыноўнік міграцыйнай службы Менскага гарвыканкама адмовіўся дапамагчы нашаму суродзічу перасяліцца з Абхазіі, дзе страляюць, зноў на Беларусь, прызнаўшыся, што яго больш непакоіць лёс мільёнаў рускамоўных у Прыбалтыцы і Сярэдняй Азіі. На жаль, і нашы суродзічы там залічаны ў катэгорыю «рускіх», якім цяпер даводзіцца расплочвацца і за зліццё моў у адну — «міжнацыянальных зносін», і за грэблівыя адносіны імперскага чынавенства да культур карэнных насельнікаў, за прагавітасць і бессаромнасць кампартыйнага начальства, за рэпрэсіі супраць «нацыяналістаў», што ў масавай свядомасці «малодшых братоў» звязваецца не з панаваўшай сістэмай, а ўвогуле з «вялікім старшым братам» і ставіцца яму ў віну. Ды і самі беларусы-мігранты за невялікім выключэннем, больш чым хто, паддаліся русіфікацыі і саветызацыі, страціўшы не толькі мову, а і нацыянальныя пачуцці, годнасць, вырадзіўшыся ў нацыянал-нігілістаў. Так, беларусы Прыбалтыкі ў сваёй большасці не адрозніваюць сябе ад расійцаў, разам з імі змагаюцца за «общие» інтарэсы (расійскія школы, напрыклад), заклікаюць Расію збройна і з дапамогаю эканамічных санкцый «бараніць» «русскоязычное население». На гэта ахвотна адгукаецца міністр замежных спраў Расіі, нягледзячы на папярэджанне цвярозых аналітыкаў, што такая «падтрымка» толькі ўскладніць становішча і тых «русскоязычных», якія ўжо атрымалі мясцовае грамадзянства ці плануюць гэта зрабіць праз некаторы час. Усе яны акажуцца пад падазрэннем як магчымыя дыверсанты — «пятая калона». Сваім беларускамоўным апанентам гэтыя нашы суродзічы адказваюць: «У нас единая советская культура, и о какой-то там белорусской говорить не приходится». Магчыма, на дадзены момант яно і так, але ж трэба цвяроза глядзець праўдзе ў вочы: кампартыйны эксперымент са зліццём нацый канчаткова праваліўся, нягледзячы на ўзброеную сілу і эканамічныя дыверсіі.

*«...Праверка ўліку асоб, якія прыбылі ў Мазырскі раён Гомельскай вобласці... пацвердзіла: у студзені — жніўні 1993 года ў гэты раён нелегальна прыбылі 42 чалавекі армянскай нацыянальнасці, з якіх 27 чалавек пражывае без рэгістрацыі. І нягледзячы на гэта, большасці працаздольных з іх была дадзена работа і выдзелена жыллё... Так, Крыніцкі сельскі Савет усім 11 працаздольным армянам даў работу і жыллё на эксперыментальнай базе «Крынічная», хоць 9 з іх не прайшлі нават рэгістрацыю. На тэрыторыі Козенскага сельскага Савета без рэгістрацыі пражывае ў калгасе «Радзіма» чацвёра армян, на тэрыторыі Скрыганаўскага сельсавета 15 армян. З гутарак з мясцовымі жыхарамі высветлілася, што асобы армянскай нацыянальнасці займаюцца спекуляцыяй, ствараюць крыміна-генную абстаноўку ў раёне, пачасціліся канфлікты на міжнацыянальнай аснове».*

*З праекта пісьма Дзяржаўнай міграцыйнай службы ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1993 г.*

Тым не менш тых з нашых суродзічаў, хто, заплюшчыўшы вочы, трымаецца за крысо здані камуністычнай імперыі, можна толькі пашкадаваць. Але адначасова трэба думаць аб тым, як ім дапамагчы, калі яны ўсё ж стануць мігрантамі. Патэнцыяльныя магчымасці тут варта прыкідваць, зыходзячы з колькасці этнічных беларусаў, якія зараз знаходзяцца за межамі рэспублікі. А такіх, паводле дадзеных Дзяржаўнай міграцыйнай службы РБ, налічваецца ў рэгіёнаў былога СССР 2,4 мільёна чалавек. З іх у Расіі — 1 мільён 200 тысяч. Толькі на першы погляд гэта маса найменш схільная да перамены месца цяперашняга жыхарства. Новыя эканамічныя абставіны многае мяняюць. Пачынаецца эпоха беспрацоўя, звязанага з балючай перапрафіліроўкай вытворчасці. А дзесяткі ж тысяч беларускіх юнакоў і дзяўчат, ратуючыся ад прыгоннага стану ў калгасах, былі завербаваныя на «будоўлі камунізму», дзяўблі падземныя гарады для ваенных комплексаў на Урале і ў Сібіры. Як прызнаюць кіраўнікі Расіі, туды «былі завезены ў мінулыя гады агромністыя масы людзей, якім зараз і заўтра нечага ўжо там рабіць». Так што адна толькі канкурэнцыя за рабочыя месцы ў цэнтральнай частцы Расіі справакуе падзел насельніцтва на «сваіх» і прышлых, і гэтым актыўна зоймуцца не толькі прыхільнікі партыі Жырыноўскага, хоць і іх, як засведчылі нядаўнія выбары, ашаламляюча многа.

*«...Нельга не ўлічваць і тое, што Беларуская дзяржава — гэта транзітная дзяржава, своеасаблівае «акно» ў Заходнюю Еўропу для эміграцыі з другіх рэгіёнаў Усходняй Еўропы і Азіі. А ўлічваючы тое, што ліберальная палітыка заходнееўрапейскіх дзяржаў у адносінах да эмігрантаў пачынае набываць усё больш абмежавальны характар, Беларусь ператвараецца ў «прымаючую» краіну — «дзяржаву-накапляльнік» для асоб, якія не змаглі эмігрыраваць на Захад. Усё гэта выклікае вельмі сур'ёзныя праблемы ў сацыяльна-эканамічным і палітычным жыцці беларускага грамадства».*

*З пісьма Дзяржаўнага камітэта па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 8 снежня 1993 г.*

Яшчэ больш верагодна, што ў хуткім часе стануць у сваёй пераважнай большасці мігрантамі этнічныя беларусы з «гарачых кропак» былога СССР, Сярэдняй Азіі, а таксама і Прыбалтыкі, калі з апошняй наш урад не знойдзе адпаведнага пагаднення, што хутчэй за ўсё малаверагодна, мяркуючы па рознасці палітычнай ды і эканамічнай скіраванасці. Выходзіць, адусюль трэба чакаць мігрантаў. Колькі іх усяго будзе, калі вядома, што этнічных беларусаў у Сярэдняй Азіі — 300 тысяч чалавек, у Малдове — 20 тысяч, у Латвіі — 120 тысяч, Літве — 60 тысяч, Эстоніі — 19 тысяч і г. д.

Парадокс яшчэ заключаецца ў тым, што Беларусь зараз прымае ўсіх бежанцаў, незалежна ад нацыянальнасці, і этнічныя беларусы састаўляюць у гэтым патоку крыху больш палавіны — 52 працэнты. Калі ўлічыць толькі чыста беларускі патэнцыял і тэндэнцыі, наўрад ці хто возьмецца дакладна прадказаць, чым усё абернецца нават у бліжэйшыя месяцы. Варта, дарэчы прыгадаць, у колькі мільёнаў дзяржаве абыйдзецца ўладкаванне аднаго бежанца і тыя канфлікты, якія зараз адбываюцца ў Расіі паміж мясцовым насельніцтвам і сваімі ж «рускімі», але бежанцамі,— тут і знішчэнне маёмасці, і падпалы жылля, і крывавыя бойкі з прымяненнем зброі. Разборкі з «нацменамі» адбываюцца яшчэ больш жорсткія.

Паміж тым на Беларусь, акрамя бежанцаў славянскага паходжання, хоць і яны прыкметна адрозніваюцца па свайму сацыяльна-культурнаму выхаванню (пра мову ўжо нават і гаворкі не вядзём) ад карэннага беларускага насельніцтва, імкне маса каўказцаў. Прычым далёка не заўсёды мірнага і законапаслухмянага па сваіх настроях, многа моладзі, падпарадкаванай кланавым важакам, а то і паханам. Колькі іх у нас зараз — не ведае дакладна ніхто. А колькі будзе заўтра?

Беларускі ўрад афіцыйна ўзяў пад сваё крыло палітычных мігрантаў з Афганістана, Ірана, Ірака, Лівана, Балівіі, Сірыі, Кубы, Кітая, В'етнама і шэрага афрыканскіх краін. Зараз іх як быццам дзве з паловай тысячы. У жніўні па афіцыйных звестках, апублікаваных у «Народнай газеце» (№ 159), было 855. Як бачна, толькі за тры з нечым месяцы лічба ўзрасла больш чым у тры разы. Без прававога статуса на тэрыторыі Беларусі пражывае таксама каля тысячы в'етнамцаў. На прадпрыемствах яны не працуюць, але толькі 80 чалавек удалося адправіць на радзіму. Астатнія ў нашых гарадах, і чым займаюцца, на што жывуць і дзе начуюць, невядома.

У апошнія месяцы пачасціліся таксама выпадкі нелегальнага ўезду ў рэспубліку сваякоў замежных студэнтаў, якіх у нас 3,5 тысячы. Па звестках Дзяржаўнай міграцыйнай службы толькі да 850 афганскіх студэнтаў нелегальна прыехала амаль 1,5 тысячы членаў іх сем'яў, якія маюць намер прасіць палітычнага прытулку ў Беларусі. Усё часцей заўважаюцца таксама кітайцы. Пакуль гэта дробныя гандляры, ганцы злачынных груповак, але колькі і каго ў нас будзе заўтра не ў стане адказаць ніхто, у тым ліку, відаць, і Дзяржаўная міграцыйная служба пры Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь, якая да таго ж не забяспечана адпаведнымі заканадаўчымі актамі. Пакуль што існуе не надта дасканалы закон, які бароніць інтарэсы і жыцці нашых унутраных мігрантаў, няхай сабе і палітычных. Аб праекце другога закона, куды больш важнага і тэрмінова неабходнага — «Аб бежанцах і вымушаных перасяленцах» ідзе яшчэ гаворка. Справы ж міграцыі і эмігрантаў практычна залежаць ад волі асобных чыноўнікаў, а гэта значыць прадастаўлены амаль неабмежаваны прастор для подкупу, злоўжывання службовым становішчам, разрастання мафіі, у дадатак да эканамічнага яшчэ і этнічнага хаосу на Беларусі, што можа прывесці да зацяжных крывавых канфліктаў.

Ніхто ніякім чынам не заклікае да ксенафобіі — да татальнай боязі людзей іншанацыянальнага паходжання. Але ж кожная нармальная дзяржава элементарна абавязана клапаціцца аб стабільнасці жыццёвых умоў сваіх грамадзян і добра лічыць, колькі яна можа сабе дазволіць прыняць новых насельнікаў і на якіх умовах. Значыць, павінен быць Закон, прычым такі, які добраахвотна прызнае справядлівым пераважная большасць грамадзян. У гэтым сэнсе самым лепшым было б увогуле усенароднае галасаванне — рэферэндум. На Беларусі сітуацыя ўскладняецца яшчэ і тым, што яе Вярхоўны Савет праяўляе пасіўнасць. Няма ўпэўненасці, што і праект закона аб міграцыі ён не прыме. Таму грамадзянам Беларусі незалежна ад іх палітычных поглядаў варта было б аб'яднанымі намаганнямі дапамагчы сваёй вярхоўнай уладзе прыняць неадкладнае і канкрэтнае рашэнне. Мяркуем, што пажадана, каб асобныя грамадзяне, а таксама палітычныя і культурныя аб'яднанні Беларусі неадкладна пасылалі лісты з прапановамі, якім быць закону аб міграцыі, на адрас Вярхоўнага Савета. Можна і ў рэдакцыю «Нашага слова» для папярэдняй публікацыі вашых прапаноў, дарагія чытачы. Лічым таксама, што найбольш аптымальным у цяперашняй крытычнай сітуацыі было б, каб пытанне разгледзеў Прэзідыум Вярхоўнага Савета і прыняў неабходную пастанову, якая дзейнічала б да прыняцця адпаведнага закона.

Яшчэ раз выказваем спадзяванне, шаноўныя землякі і суграмадзяне, што ў вашых прапановах не будзе ні ценю непавагі да мігрантаў, якое б нацыянальнае паходжанне яны не мелі, а толькі мудрае разуменне стану, у якім мы ўсе апынуліся. У сваю чаргу, пачынаем знаёміць чытачоў з матэрыяламі па міграцыйных пытаннях, падрыхтаваных карэспандэнтамі «Нашага слова».

І. ПЛАТОНАВА,
Ул. АСІНАЎСКІ.

 

# БЯРЫЦЕ ПРЫКЛАД З ЛАТЫШОЎ

**Бліц-інтэрв'ю з сябрам Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» паэтам з г. Даўгаўпілса Станіславам ВАЛОДЗЬКАМ**

**—СТАНІСЛАЎ, ЯК ТЫ ГЛЯДЗІШ НА ПЕРСПЕКТЫВЫ АДРАДЖЭННЯ БЕЛАРУШЧЫНЫ НА БЕЛАРУСІ?**

— Пасля Першага з'езда беларусаў свету я паўгода не наведваў Менск і таму цяпер, сышоўшы з цягніка, быў прыемна ўражаны, убачыўшы табло раскладу цягнікоў і пачуўшы аб'явы на вакзале на беларускай мове. Але гэтага вельмі мала, каб сказаць, што працэс адраджэння незваротны. Да ўсяго, Закон аб мовах у Беларусі не выконваецца, бо ў ім непрадугледжаны пакаранні за яго невыкананне. Беларусам трэба браць прыклад з латышоў. Хочаш працаваць — здай экзамен на валоданне латышскай мовай. Я таксама сяджу над падручнікамі і слоўнікамі, бо разумею, што, жывучы ў краіне і не ведаючы яе мовы,— гэта не толькі непавага да дзяржавы, але і да сябе.

Перспектывы адраджэння Беларушчыны залежаць ад кожнага жыхара Беларусі і ў найбольшай ступені ад людзей, якія маюць уладу. Пакуль што пры ўладзе людзі, якім беларуская мова не толькі не патрэбна, але і перашкаджае зліцца ў адну дзяржаву з Расіяй.

Чытачам «Нашага слова» жадаю ў Новым, 1994 годзе заставацца людзьмі, трымаць сябе ў руках, бо толькі тады можна спадзявацца, што і Бог не апусціць нас у прорву небыцця і не аслепіць усіх мясцовы жырнізм.

Шануй свае карэнні,
Які б не быў высокі.
І ў вусці нават помні,
Адкуль тваё вытокі.

В. Ш.

***АДГУКНІЦІСЯ!***



## Дапамажыце адшукаць родных!

*Я, НОВІКАВА-СУДНІК ЗІНАІДА ІВАНАЎНА, ШУКАЮ СВАЮ РОДНУЮ ЦЁТКУ СУДНІК ТАЦЦЯНУ ФЁДАРАЎНУ. РОДАМ ЯНА З БРЭСТЧЫНЫ, З ВЁСКІ ЯТВЯЗЬ. У 30-я ГАДЫ, СЕМНАЦЦАЦІГАДОВАЯ, ЯНА ВЫЕХАЛА (МАГЧЫМА, У ПАЎДНЁВУЮ АМЕРЫКУ). НА ЗДЫМКУ ЯНА З СЯБРОЎКАЙ (З ПРАВАГА БОКУ), ПРАЦАВАЛА НА ТЭКСТЫЛЬНАЙ ФАБРЫЦЫ, ТАМ, У ЗАМЕЖЖЫ, ВЫЙШЛА ЗАМУЖ (ФОТАЗДЫМАК З СЯМ'ЁЙ). ПРОЗВІШЧА АБО АЛЕКСАНДРОВІЧ, АБО МУЖА ЗВАЛІ АЛЯКСАНДРАМ.*

*ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ! ДАПАМАЖЫЦЕ МНЕ АДШУКАЦЬ СВАІХ РОДНЫХ. УСЕ ВЕСТКІ ПАВЕДАМЛЯЦЬ НА АДРАС: ГОРАД МЕНСК-50, ВУЛ. КІРАВА ДОМ 9-16, ТЭЛ. 20-97-61.*

*З ПАВАГАЙ,*

*ЗІНАІДА ІВАНАЎНА НОВІКАВА-СУДНІК.*



***Гісторыя Айчыны — вайскоўцам***

*М. БІЧ*

# Беларусы: палітычнае і эканамічнае жыццё ў складзе Расійскай імперыі

## (канец XVIII – сярэдзіна XIX ст.)

***Працягваем друкаваць раздзелы з новага вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі».***

Вынікам паражэння паўстання для Каралеўства Польскага з'явілася скасаванне канстытуцыі 1815 г., сейма, асобнай польскай арміі, увядзенне расійскага тэрытарыяльна-адміністрацыйнага падзелу. Нягледзячы на паражэнне, нацыянальна-вызваленчае паўстанне ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве прадухіліла інтэрвенцыю царскага войска ў рэвалюцыйную Францыю.

Адным з вынікаў паўстання 1830—1831 гг. была страта царскім урадам палітычнага даверу да польскай і беларускай шляхты, якая з'яўлялася галоўнай рухальнай сілай гэтага паўстання. Таму пасля падаўлення паўстання быў узяты курс на аслабленне тутэйшай шляхты, на выкараненне паланізму і паслядоўную русіфікацыю краю.

14 кастрычніка 1831 г. цар падпісаў указ, паводле якога ўсе прадстаўнікі шляхты павінны былі прад'явіць у адпаведныя ўстановы дакументы аб сваім паходжанні. Тыя, у каго іх не было, пазбаўляліся права валодання маёнткамі і пераводзіліся ў аднадворцы — фактычна далучаліся да дзяржаўных сялян. Гэтае мерапрыемства называлася «разбор шляхты». Усяго на Беларусі ў аднадворцы было запісана больш за 10 тыс. былых шляхціцаў.

У 1832 г. пры царскім урадзе быў створаны «Асобы камітэт па справах заходніх губерняў». Камітэт прапанаваў праводзіць на Беларусі палітыку насаджэння землеўладання рускіх дваран, чыноўнікаў, а таксама сялян з прадастаўленнем ім шматлікіх ільгот. Аднак прыкметнага поспеху гэтая палітыка не мела. Выхадцы з Расіі не замацоўваліся на беларускай зямлі: дваране і чыноўнікі па льготных цэнах куплялі маёнткі, а затым з вялікай выгадай для сябе перапрадавалі іх.

У 30-я гады на Беларусі праводзілася чыстка дзяржаўных устаноў, органаў суда, асветы і культуры ад чыноўнікаў «польскага паходжання». На іх месца запрашаліся людзі з цэнтральных губерняў, якіх заахвочвалі павышанымі акладамі і хуткім ростам кар'еры, магчымасцю на льготных умовах набыць зямельныя ўладанні. Усё справаводства ў дзяржаўных установах было пераведзена на рускую мову. У 1832 г. улады закрылі Віленскі універсітэт. З 1836 г. забаранялася выкладанне польскай мовы ў школах.

Указам ад 18 чэрвеня 1840 г. Мікалай І забараніў выкарыстоўваць у афіцыйных дакументах назвы «Беларусь» і «Літва», «Беларускія губерні» і «Літоўскія губерні». Замест іх уводзілася агульная назва «Северо-Западный край». Праз тыдзень быў выдадзены ўказ аб адмене дзеяння ў беларуска-літоўскіх губернях III Статута Вялікага княства Літоўскага і ўвядзенні ва ўсіх сферах жыцця расійскага заканадаўства.

У 30-я гады ўзмацніўся наступ царызму супраць уніяцкай царквы і каталіцкага касцёла. Ураду ўдалося перацягнуць на свой бок вышэйшае уніяцкае духавенства на чале з літоўскім епіскапам І. Сямашкам. 12 лютага 1839 г. на Полацкім царкоўным саборы было прынята рашэнне аб далучэнні уніятаў, якія ў канцы XVIII ст. складалі каля 75 працэнтаў беларускага насельніцтва, да рускай праваслаўнай царквы. Уніяцкія храмы і манастыры гвалтоўна ператвараліся ў праваслаўныя, закрываліся школы, якія дзейнічалі пры іх. Гэтая акцыя суправаджалася спальваннем уніяцкіх беларускамоўных рэлігійных і вучэбных кніг. Знішчаліся каштоўныя царкоўныя інтэр'еры (скульптура, іканапіс), якія не адпавядалі праваслаўным канонам.

Крызіс феадальна-прыгонніцкага ладу ў 40—50-я гады праяўляўся і ў нарастанні пратэсту з боку сялянства, а таксама грамадска-палітычнага руху інтэлігенцыі, накіраванага на звяржэнне самадзяржаўя і рэвалюцыйнае вырашэнне аграрна-сялянскага і нацыянальнага пытанняў.

У 50-я гады сяляне ўсё часцей адмаўляліся выконваць павіннасці. Чуткі аб хуткім вызваленні з прыгону асабліва шырока распаўсюдзіліся ў канцы 50-х гадоў і нараджалі сярод сялян, па словах віцебскага губернатара, «дух непакоры». Многія хваляванні падаўляліся вайсковай сілай. Напружанае становішча ў вёсцы прыводзіла шмат каго з мясцовых памешчыкаў да думкі аб неабходнасці адмены прыгоннага права. У 1850 г. большасць удзельнікаў з'езда дваран Віцебскай губерні падтрымала адпаведную прапанову. У верасні 1857 г. за адмену прыгоннага права выказаліся з'езды дваран Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губерняў. Іх хадайніцтвы генерал-губернатар У. І. Назімаў накіраваў Аляксандру II, адзначыўшы пры гэтым, што «сяляне заходніх губерняў чакаюць свайго вызвалення з напружаным нецярпеннем». 20 лістапада таго ж года быў апублікаваны рэскрыпт цара на імя Назімава, якім дазвалялася стварыць у названых губернях дваранскія камітэты для абмеркавання праектаў адмены прыгоннага права. Аляксандр II прыйшоў да пераканання, што лепш вызваліць сялян «зверху», не чакаючы сялянскай рэвалюцыі.

У канцы 50-х гадоў на Беларусі і ў Літве сярод сялян шырока разгарнуўся рух за цвярозасць. Ён накіроўваўся супраць грабежніцкай адкупной сістэмы на продаж гарэлкі ў форме піцейных збораў. У Віленскай губерні гэты рух ахапіў каля 312 тыс. чалавек. У цэлым ён абвастрыў палітычны крызіс самадзяржаўя і засведчыў рост свядомасці, стойкасці і арганізаванасці сярод сялян, пачуццяў сваёй чалавечай годнасці.

У 30—50-я гады сярод моладзі навучальных устаноў Беларусі працягвалася дзейнасць тайных таварыстваў, звязаных, як правіла, з польскім нацыянальна-вызваленчым рухам. У 1836 г. у Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі па ініцыятыве студэнта Франца Савіча ўзнікла нелегальнае «Дэмакратычнае таварыства». Яго сябры выступалі за ўстанаўленне роўнасці паміж людзьмі, вызваленне сялян і надзяленне іх зямлёю, за пераход улады ў рукі народа. У 1839 г. арганізацыя была разгромлена.

У другой палове 40-х гадоў на Беларусі і ў Літве дзейнічаў тайны «Саюз свабодных братоў» з цэнтрам у Вільні. Ён меў аддзяленні ў Менску, Гродне, Лідзе, Ашмянах, Навагрудку, Слоніме, выступаў за стварэнне свабоднай дэмакратычнай Польскай рэспублікі. «Саюз» вёў агітацыю сярод салдат і афіцэраў мясцовых гарнізонаў з мэтай арганізацыі паўстання, але ў 1849 г. быў разгромлены.

Паражэнне царызму ў Крымскай вайне 1853—1855 гг. выявіла адсталасць і гніласць феадальна-прыгонніцкага ладу Расійскай імперыі і садзейнічала ажыўленню грамадска-палітычнага руху, узнікненню рэвалюцыйнай сітуацыі. Небывалую папулярнасць набылі газета «Колокол», што выдавалася А. Герцэнам, М. Агаровым і М. Бакуніным у Лондане, і пецярбургскі дэмакратычны часопіс «Современник», які ўзначалілі М. Чарнышэўскі, М. Дабралюбаў і М. Някрасаў.

*(Працяг будзе.)*

## Вучымся!

Мы працягваем друкаваць матэрыялы, у якіх сістэматычна выкладзены правілы пастаноўкі знакаў прыпынку. Артыкулы рыхтуюцца паводле «Даведніка па пунктуацыі беларускай мовы» доктара філалагічных навук, прафесара БДУ Л. І. Бурака і пры яго кансультацыі.

# Знакі прыпынку пры аднародных членах

## Аднародныя і неаднародныя азначэнні

1. Дапасаваныя бяззлучнікавыя азначэнні, якія характарызуюць прадмет з розных бакоў, з'яўляюцца неаднароднымі і знакамі прыпынку не аддзяляюцца: *Над наваколлем навіслі важкія асеннія хмары* (І. Мележ). *Высокая зялёная бяроза віднелася на гарызонце* (Кузьма Чорны).

2. Дапасаваныя бяззлучнікавыя азначэнні з'яўляюцца аднароднымі і аддзяляюцца адно ад другога коскай:

калі абазначаюць адметныя адзнакі розных прадметаў або розныя адзнакі аднаго і таго ж прадмета, характарызуючы яго з аднаго якога-небудзь боку: *На кажуху былі палатняныя, суконныя, кажурынкавыя латкі* (Якуб Колас). *Буйное, густое зарадзіла жыта* (П. Броўка);

калі маюць сінанімічны характар: *Ясным, сонечным днём атрад рушыў у паход* (Янка Маўр). *З двара пазірала цёмная, чорная ноч* (Якуб Колас). *На сухім, парыжэлым верасе іскрыліся каплі расы* (Б. Мікуліч);

калі ўжываюцца ў пераносным сэнсе: *Тонкія, жураўліныя ногі пастуха былі босыя* (П. Галавач). *У купца былі густыя, пшанічныя вусы* (Кузьма Чорны);

калі стаяць пасля азначаемага слова: *Спакой халодны, амярцвелы паклаў на ўсё сваю пячаць* (Якуб Колас). *У гомане лесу чуўся ўжо цяжкі крок зімы доўгай, лютай, марозлівай* (П. Галавач). *Нітуюць неба струны павуціння ў сонечных праменнях чыстых, залатых* (А. Куляшоў);

калі адасабляюцца ў сказе: *Дождж, халодны, асенні, не пераставаў цэлы тыдзень* (Якуб Колас). *Вечар, ціхі, цёплы, ахутваў змрокам зямлю* (А. Пальчэўскі). *Перакатвалася цераз поле «ура» — бурлівае, шматгалосае, маладое* (М. Лынькоў). *А зверху свяціла сонца: зыркае, цёплае, чэрвеньскае* (М. Лынькоў);

калі кантэкст стварае неабходныя ўмовы для пэўнага збліжэння абазначаных імі адзнак: *Шэрая, мёрзлая зямля блішчэла ад месяца* (Кузьма Чорны). *Быў ясны, халаднаваты дзень вясны* (І. Мележ). *Над абрывістым берагам Нёмана стаяў стары, прысадзісты, тоўсты дуб* (Якуб Колас);

калі адно азначэнне неразвітае, а другое — развітае: *У начальніка былі чорныя, крыху пасярэбраныя сівізной валасы* (С. Баранавых). *Чорная, абгарэлая па краях люлька даўно патухла* (А. Марціновіч). *Прыгожы, пабудаваны зусім нядаўна дом узвышаўся на ўзгорку* (Т. Хадкевіч).

ЗАЎВАГА 1. Азначэнні, якія з'яўляюцца тэрміналагічнымі назвамі і стаяць пасля азначаемага слова, лічацца неаднароднымі і коскамі не аддзяляюцца: *Адна з раслін, менавіта лапчатка гусіная лясная, звычайна расце на палянах.*

ЗАЎВАГА 2. Коска ставіцца пры так званых удакладняльных азначэннях, калі адно азначэнне ўдакладняе, канкрэтызуе змест другога: *Лабановіч убачыў там другіх, зусім незнаёмых людзей* (Якуб Колас). Такія азначэнні могуць мець іншае тлумачэнне, што адбіваецца на іх пунктуацыі, напрыклад: *Я хачу купіць другую, новую кнігу* (не новая кніга ўжо была) і *Я хачу купіць другую новую кнігу* (адна новая кніга ўжо была).

3. Недапасаваныя бяззлучнікавыя азначэнні ў складзе аднаго рада заўсёды аднародныя і аддзяляюцца пры дапамозе коскі: *Дзеда непакоіла думка аб доме, аб Панасе* (Якуб Колас). *Гэты твар з вострым падбародкам, з жоўтым носам, з ямамі на шчоках, з цёмнымі ценямі пад запалымі вачыма, з глыбокімі рысамі маршчын ні ў чым не нагадваў Міхаіла Ганарджыя* (Э. Самуйлёнак).

4. Недапасаваныя бяззлучнікавыя азначэнні разам з дапасаванымі ў складзе аднаго рада звычайна аднародныя і аддзяляюцца пры дапамозе коскі: *У новым, добрага крою гарнітуры ён выглядаў маладзей за свае гады* (Кузьма Чорны). *Генерал зняў фуражку, і вецер варушыў яго густыя, з глянцаватым водбліскам валасы* (І. Мележ).

5. Прыдаткі з'яўляюцца аднароднымі і аддзяляюцца коскамі тады, калі яны характарызуюць прадмет з аднаго якога-небудзь боку; гэтыя прыдаткі заўсёды ўваходзяць у склад адасобленых зваротаў: *Адзін дзед, слаўны добры майстар, скромны мастак, творца прыгожых бліскучых пасудзін, не здрадзіў мне* (З. Бядуля). *Трапіў ён на сядзібу Шыпшынскага Яна — адстаўнога маёра, былога ўлана* (А. Куляшоў).

6. Прыдаткі, якія характарызуюць прадмет з розных бакоў, але стаяць пасля азначаемага слова, выступаюць як аднародныя і аддзяляюцца коскамі: *Сход адкрыў народны дэпутат, старшыня Камісіі па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета, старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Ніл Гілевіч.*

Калі ж такія прыдаткі стаяць перад азначаемым словам, то яны лічацца неаднароднымі і коскамі не аддзяляюцца: *Цікавы даклад на канферэнцыі прачытаў кандыдат гістарычных навук супрацоўнік АН Беларусі Іван Саверчанка.*

*СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ*

# Прывітай добрым словам

Мы пачынаем друкаваць асобныя артыкулы слоўніка сінонімаў беларускай літаратурнай мовы, падрыхтаванага старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа, кандыдатам філалагічных навук Мікалаем Нілавічам Крыўко.

Для свайго слоўніка я апрацаваў больш за 10 тысяч сінанімічных радоў, у якія ўвайшло не менш чым 35 тысяч слоў. Для параўнання: у рускім «Словаре синонимов» (Л., 1975) пададзена 7323 сінанімічныя рады.

Слоўнік сінонімаў патрэбны для ведання лексічнага багацця нашай мовы — дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь. Такія лексікаграфічныя дапаможнікі неабходныя настаўнікам, журналістам, усім, хто працуе са словам, хто клапоціцца пра культуру сваёй мовы, для правільнага выкарыстання слоў, якія азначаюць адно і тое ж паняцце або з'яўляюцца тоеснымі ці блізкімі паводле значэння. Слоўнік сінонімаў паможа карыстальнікам убачыць лексічнае і словаўтваральнае багацце мовы, стылістычную разнастайнасць нашай лексікі, розных відаў экспрэсіі лексікі, эмацыянальных ацэнак. Важна дакладна і правільна падабраць да таго ці іншага слова ў кожнай моўнай сітуацыі дакладны, канкрэтны сінонім — хай гэта будзе слова, фразеалагічны выраз ці словазлучэнне. Вось асноўныя задачы слоўніка сінонімаў беларускай літаратурнай мовы.

Сама больш слоў у нашай мове на літару *п*. Яны складаюць прыкладна чвэртку лексікі ўсёй літаратурнай мовы. Натуральна, што менавіта з гэтай часткі слоўніка складзена больш за ўсё сінанімічных радоў. Іх у першую чаргу і падаю на старонках гэтага выдання. Абмежаваныя магчымасці газеты, на жаль, дазваляюць згадаць толькі адзін прыклад на кожны сінонім, хаця ў маім слоўніку кожны праілюстраваны, як правіла, трыма цытатамі з твораў беларускіх пісьменнікаў, публіцыстыкі ці з навуковай літаратуры.

**ПАВЕДАМІЦЬ** *каму што* або *пра што* (перадаць каму-небудзь якія-небудзь звесткі, навіны, давесці да ведама, даць знаць пра што-небудзь) *Роўным і як быццам спакойным голасам паведаміла радыстка пра сігналы эсмінца* (Кулакоўскі), **АПАВЯСЦІЦЬ** *каго пра што* і *з дададзеным сказам Людзей трэба апавясціць! — нецярпліва прамовіла* [Ганна] (Мележ), **ІНФАРМАВАЦЬ** *каго пра што* або *аб чым; афіцыйна-дзелавое Інфармаваць аб прыездзе гасцей*, **ПРАІНФАРМАВАЦЬ** *каго пра што* або *аб чым; афіцыйна-дзелавое Трэба праінфармаваць Франтавы камітэт аб настроях акопнікаў* (Гурскі), **НАКАЗАЦЬ** *каму* і *без дапасавання* (паведаміць што-небудзь каму-небудзь праз каго-небудзь) *Наказалі з дому, што захварэла маці* (С. Александровіч), **ПЕРАДАЦЬ** *каму што* і *з дададзеным сказам* (пераказаць пра пачутае, убачанае і г. д.). *Пятро не ўтрымаўся і сам перадаў пану сёе-тое з таго, што пачуў ад пастушка* (Пальчэўскі), **ДАНЕСЦІ** *каму што* і *без дапасавання*, а таксама *каму на каго* і *з дададзеным сказам* (далажыць, паведаміць, зрабіць данясенне, а таксама: таемна паведаміць, зрабіць данос) *Разведка данесла, што, не даходзячы да ракі, танкі перагрупіроўваюцца* (Чорны). *І не выходзіла з галавы думка: няўжо Васіль дапусціўся да таго, што данёс польскай паліцыі на Мартына* (Колас), **ШАПЯНУЦЬ** і **ШАПНУЦЬ** *каму што, пра што* і *з дададзеным сказам* (паведаміць, перадаць якія-небудзь чуткі па сакрэту, таемна) *Ці то Аўдоля не ўмаўчала і пад вялікім сакрэтам шапянула каму-небудзь, ці то яно з воласці як перадалося ў вёску, але пайшла такая гаворка па сяле* (Крапіва). *Хто, скажыце, шапнуў яму* [Карыбаваму сыну] *ўпотай пра мой сад і пакуты старога?* (Бажко), **ДАВЕСЦІ ДА ВЕДАМА** *каго; афіцыйна-дзелавое* **ДАЦЬ ЗНАЦЬ** *каму пра што; размоўнае Калі б яна выратавалася, дык дала б знаць пра сябе* (Грахоўскі), **ДАЦЬ ВЕСТКУ** *каму пра што; разм.* (апавясціць, давесці да ведама) *Калі ў вас нешта канкрэтнае акрэсліцца, дайце мне вестку* (Новікаў), **ДАЦЬ СІГНАЛ** *каму пра што; разм. Заварушыцца трывога — Бронісь дасць сігнал* (Баранавых). — Н е з а к о н ч а н а е т р ы в а н н е: Паведамля́ць, апавяшчаць, інфармава́ць, нака́зваць, перадава́ць, дано́сіць, шапта́ць, даво́дзіць да ве́дама, дава́ць знаць, дава́ць ве́стку, дава́ць сігна́л.

**ПАВЕРХ** прыназоўнік *з род. склонам* (ужываецца пры абазначэнні паверхні, вышэй якой або на некаторай адлегласці ад якой знаходзіцца што-небудзь ці адбываецца якое-небудзь дзеянне) *Там-сям паверх вады бездапаможна вырысоўвалася затопленая лаза* (Краўчанка), **ПАЎЗВЕРХ** *За шыбай ужо была снежная гурба. Паўзверх яе курыўся снег* (Алешка), **НАД** прыназоўнік *з творным склонам Зоры далёкія, зоры бліскучыя Ціха гараць над зямлёй* (Колас), **НАДА** прыназоўнік *з творным склонам* (ужываецца замест «над» у спалучэнні «нада мной (мною)») *Ой вы думкі, думкі, Сэрца майго раны! Ці вы мае дзеці, Ці вы кім насланы? Што ж вы завіліся Віхрам нада мною...* (Колас), **ПА-НАД** прыназ. *з творн. склонам Сем бясконцых дзён і жудасных начэй Па-над стэпам насіўся Сухавей* (Танк), **ПА-НАДА** прыназ. *з творн. склонам* (ужываецца замест «па-над» у спалучэнні «па-нада мной (мною)» *І вось ізноў таполі трапяткія Па-нада мной рассыпалі свой звон* (Панчанка).

*ХАЧУ ВЕДАЦЬ*

### *ПАВАЖАНЫ СПАДАР РЭДАКТАР!*

***З цікавасцю чытаю Ваша выданне. Асабліва мяне задаволіў 45-ы нумар за 10 лістапада. Нарэшце рэдакцыя ўлічыла маю заўвагу і надрукавала: «Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе...» Але ж у гэтым нумары ёсць іншыя недакладнасці. Нашто пісаць*** *працягам*, ***калі лепей выкарыстаць выраз*** *на працягу*. ***Далей:*** *блішча* — ***трэба*** *блішчыць, кабанчык — вепручок, кішэнь — кішэня, к нам — да нас, не даслухаў адказ — ...адказу, скоранька — скорынька, распавядаў — расказваў, фронта — фронту, не рабіць тое — ...таго, паасобнікаў — экземпляраў, угодкі — гадавіна, з волі — па волі, не парупяцца — не пастараюцца.*

***Я вітаю ў вашай газеце імкненне да чысціні мовы. Але ж гэта неабходна рабіць так, каб не ўжываліся словы маловядомыя ці дыялектныя. Лічу, што рэдакцыйныя супрацоўнікі павінны з большым патрабаваннем адносіцца да публікуемых матэрыялаў. Названыя вышэй недакладнасці — гэта ўпушчэнні, ці, дакладней, недагляд.***

***З павагай да Вас Міхась ВАЛЬКО, сакратар Нясвіжскай раённай рады ТБМ.***

АД РЭДАКЦЫІ. Дзякуем за ўвагу да нашай газеты і за крытычныя заўвагі. Таму такія допісы — нам на карысць. Не з усім можам пагадзіцца. Першае. Як перадражніў аднаго нашага аўтара вясковы дзядзька з-пад Плешчаніц: «На мінулым тыдні — ха, на мінулым тыдні, на страсе... Трэба казаць мінулым тыднем». Мяркуем, сапраўды прыназоўнікі беларускай мовы вельмі канкрэтныя. Калі ўжо скажуць *на*, то гэта значыць на нечым нешта ляжыць, стаіць, вісіць. А на *працяг* нічога не паставіш, не пакладзеш. Памятаеце, у Максіма Багдановіча: *І цягам доўгія часіны...* А таксама І. І. Насовіч падае слова *цяг...* з (трэцім) значэннем — бесперапыннасць. *Одным цягом работаць.* (Магчыма, нам трэба было ўжыць слова *цягам* замест *працягам.*)

Вось мы і палічылі, што выраз *на працягу* — гэта будзе на лад расійскі. Мяркуем таксама, што больш па-беларуску — *з волі*, а не *па волі* (рас. *по воле волн...*).

З «Слоўніка беларускай мовы» ўзяты і формы слоў *кішэнь* (там яно падаецца з паметай *часцей*) ды *скоранька*. Што да слоў *парупяцца — пастараюцца, распавёў — расказаў*, то, верагодна, гэта сінонімы аднаго сінанімічнага рада і аўтар вольны выбіраць. А вось варварызм *экземпляр* трэба з нашай мовы выкараняць: знайшлі ж добрае ўласнае слоўка *паасобнік*. Яно яшчэ пора ў вока, але ж трэба прызвычайвацца. У чэхаў такіх неалагізмаў — тысячы, і нікому гэта не шкодзіць. І нашай мове, мяркуем, толькі на карысць маловядомыя ці дыялектныя словы.

Што да іншых заўваг — прызнаём рацыю спадара Міхася Валько.

## Язык як перац

Гладкі, як бычок.
Гладкі, як лінь.
Гладкі, як парсюк.
Гладкі, як мянёк (як мянтуз).
Гладкі, як шкло.
Глухі, як апенька.
Глухі, як пень.
Глядзіць, як аблізаны.
Глядзіць, як баран на новыя вароты.
Глядзіць, як баран у біблію.
Глядзіць, як бык на новае шула.
Глядзіць (беражэ, зберагае), як вока.

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

ПАВАЖАНЫ СП. РЭДАКТАР!

Хто былі:
1) Княгіня Марыя Магдалэна Радзівіл (ыха)?
2) Раман Скірмунт?
3) Эдвард Вайніловіч?

І чаму вы пра іх яшчэ нічога не друкавалі?

З пашанай, Гай Пікарда,
Вельмі чакаю друкаваны адказ!..
Вясёлых Каляд і шчасівага Новага года!

Лондан, Англія.

Ад рэдакцыі. «Наша слова» і ў 1994 годзе працягвае друкаваць матэрыялы ў рубрыцы «Гісторыя Беларусі ў пытаннях і адказах». Будуць і адказы на пытанні, пастаўленыя спадаром Гаем Пікарда.

## На чыім баку былі беларусы ў вайне 1812 года?

У тыя трагічныя для Беларусі паўгода, ад Купалля да Калядаў 1812 года, пакуль ішла вайна, нашы прадзеды апынуліся на абодвух — і на расейскім, і на французскім — баках. У расейскае войска яны трапілі з папярэдніх рэкруцкіх набораў. Пасля канчатковай анексіі Беларусі толькі за 1796—1799 гады ў расейскае войска ўзялі 49 тысяч беларусаў, а з 1801 да 1812 года — 130 тысяч (гэта апрача шляхты, якая папаўняла расейскі афіцэрскі корпус). Тэрмін службы рэкрутаў быў тады 25 гадоў, так што ўлетку 1812 года ў расейскіх шыхтах стаялі яшчэ рэкруты набору 1788 года, які праводзіўся на Полаччыне, Віцебшчыне, Магілеўшыне, акупаваных Расеяй яшчэ ў 1772 годзе. Служылі беларускія рэкруты ў 3—7, 11, 12, 14—18, 21, 23 і 27-й пяхотных дывізіях. Гэтыя дывізіі ўваходзілі ў склад армій Барклая-дэ-Толі і Баграціёна і прынялі на сябе галоўны цяжар ваенных дзеянняў і Барадзінскай бітвы.

Паколькі землі былога Вялікага Княства Літоўскага Напалеон лічыў вызваленымі з-пад расейскага прыгнёту, была ўтвораная Камісія Часовага Урада Вялікага Княства. Яна прысягнула на вернасць імператару, гэта значыць, што Беларусь фармальна была абвешчаная саюзніцай Францыі. Камісія Часовага Урада з дазволу імператара пачала ствараць уласныя ўзброеныя сілы, якія далучаліся да напалеонаўскай арміі. Мелася на мэце стварыць 100-тысячнае войска, але рэальна паспелі выставіць для дзейнай арміі 5 палкоў пяхоты і 4 уланскія палкі. Пяхотныя палкі атрымалі нумарацыю з 18-га да 22-га, уланскія — з 17-га да 20-га. Акрамя таго, быў сфармаваны лёгкаконны полк пад камандаваннем слонімскага ўраджэнца генерала Яна Канопкі, да якога далучыўся эскадрон беларускіх татараў на чале з Мустафой Ахматовічам. Да корпуса Ю. Панятоўскага далучылася беларуская артылерыйская батарэя. Асобны полк уланаў, лікам 3 тысячы шабляў, выставіў сваім коштам князь Дамінік Радзівіл. На Палессі фармаваўся 6-ты пяхотны полк. Трэба ўзгадаць яшчэ і конныя харугвы шляхты, якія сабраліся ўжо пад канец вайны, у снежні, на заклік да паспалітага рушання. Усяго на баку Напалеона былі 24 тысячы беларускіх жаўнераў — тое, што здолеў абмундзіраваць і ўзброіць Часовы Урад.

Гэтак беларусы, апранутыя ў мундзіры расейскай і французскай армій, у многіх сутычках і бітвах той вайны вымушаныя былі забіваць адзін аднаго — сусед суседа, сваяк сваяка, крэўны крэўнага.

Кастусь ТАРАСАЎ.

## Які след у гісторыі Беларусі пакінуў А. Сувораў?

Нікога, акрамя Сталіна, Леніна і Берыі, не шанавалі ў БССР гэтак заўзята, як Суворава. Але калі помнікі Сталіну разбураныя, імя Берыі аддадзенае анафеме, нялюдскі твар Леніна ўжо праявіўся праз бронзавыя і гіпсавыя маскі, дык культ Суворава-героя па-ранейшаму квітнее на нашай зямлі. У 35 гарадах і 24 мястэчках Беларусі яго імем названыя вуліцы. Дзейнічае Кобрынскі музей, прысвечаны Сувораву. Менскае сувораўскае вучылішча, як і раней, прышчапляе сваім выхаванцам сувораўскія прынцыпы. «Сувораўцамі» сталі нават калгаснікі 23 калгасаў, названых ягоным імем.

За што ж былы бальшавіцкі ўрад Беларусі гэтак дзякаваў «графу Рымнікскаму, князю Італійскаму, прынцу Сардзінскаму, генералісімусу ўсіх сардзінскіх армій і генералісімусу ўсіх расійскіх войскаў»? Мабыць, за бязлітаснае задушэнне паўстання Тадэвуша Касцюшкі, за карныя апэрацыі супраць паўстанцаў на Беларусі. Менавіта ж за пралітую беларускую кроў Кацярына II «пожаловала в вечное и потомственное владение» Сувораву Кобрынскую воласць з 13 279 душамі сялян. На душы тады лічылася мужчынскае працаздольнае насельніцтва, так што не меней за 50 тысяч беларусаў атрымаў у падарунак расейскі палкаводзец за разбіты пад Крупчыцамі корпус паўстанцаў Серакоўскага. Увесь ягоны ўклад у беларускую гісторыю — кроў нашых продкаў.

Сувораў ніколі не ўдзельнічаў у вызваленчых войнах, ён быў тым палкаводцам, які старанна выконваў волю і пажаданні Кацярыны II і Паўла I у пашырэнні межаў Расейскай імперыі, задушэнні паўстанняў Пугачова, Касцюшкі, супрацьдзеянні войскам рэспубліканскай Францыі ў Еўропе. Баявымі дзеяннямі на Беларусі Сувораў дапамог здзейсніцца адвечнай мары расейскіх цароў аб захопе беларускіх земляў. Тыя з беларусаў, хто шануе Суворава, шануюць заваёўніка нашай зямлі. Афіцыйны ж удзел у кульце Суворава — сведчанне вернасці імперскаму хамуту.

Кастусь ТАРАСАЎ.

*КАЛЯДНЫЯ ЧЫТАНКІ*

*Алег* ДЫШЛЕВІЧ

# Гуслямі, лукам і святлом...

### ПАЭМА ЯНКІ КУПАЛЫ «НА КУЦЦЮ»

Паэме Янкі Купалы «На Куццю» ў творчасці паэта належыць цэнтральнае месца, гэтак, як і творам падобнага кшталту — «Нашай песні», «Песняру-беларусу», «Казцы аб песні», «Кургану», «Забытай скрыпцы». Аднак больш за 50 гадоў яна замоўчвалася, яе не ўключалі ў пасляваенныя зборы твораў і не друкавалі ажно да 1982 года (яна была змешчана ў зборніку «Выйдзі з сэрцам, як з паходняй») з прычыны нібыта ідэалізацыі Купалам мінуўшчыны Беларусі, яе «залатога веку» і часоў «старажытнага народаўладдзя». Але галоўнай прычынай забаронаў усё ж было тое, што паэма «На Куццю» палохала пралетарскіх ідэолагаў ад літаратуры занадта ўжо яўным пратэстам супроць палітычнага і нацыянальнага паняволення Беларусі, верай у дзяржаўнае ўваскрэсенне і лепшую будучыню беларускага народа, заклікам да нацыянальнага самавызначэння. Несугучнасць ідэй Купалы, ягонай пазіцыі і светапогляду бальшавіцкім патрабаванням г. зв. «сацрэалізму» выяўляліся ў савецкай крытыцы напачатку абвінавачваннямі паэта ў спавяданні ідэй утапічнага сацыялізму, нацыянальнага дэмакратызму (што ў 30-я гады ўжо атаясамлівалася з нацыянал-фашызмам), а ў пазнейшы час, асабліва ў пасляваенны, з Купалы мэтанакіравана рабілі пралетарскага паэта-рэвалюцыянера, класіка сацрэалізму, песняра савецкай явы. Усё, што ў паэтавай спадчыне замінала гэткай міфатворчасці, бязлітасна выдалялася з ягоных Збораў твораў і паасобных кніг, самым бессаромным чынам фальсіфікавалася творчасць народнага паэта. Трагічны лёс забыцця спасцігнуў гэтакія шэдэўры Купалавай паэзіі, як вершы «Перад будучынай» (1922), «У бяссонную ноч» (1919), «У чужой старане» (1912), «Забраны край» (1911—1912), «Над Нёманам» (1911—1912), «Сярод раз'юшаных сатрапаў» (1914), «Беларушчына» (1908), «Чужым» (1912) і многія-многія іншыя, трагікамедыю «Тутэйшыя», дзесяткі публіцыстычных выступленняў і артыкулаў, дзе паэт катэгарычна выказваўся па пытаннях нацыянальнага і дзяржаўнага жыцця беларускага народа, і без якіх немагчыма ўявіць і зразумець веліч і геній Купалы. Сцісленькі, ужо згаданы вышэй, зборнічак вершаў «Выйдзі з сэрцам, як з паходняй» (Мн., 1982), як не дзіўна, стаў больш-менш шчаслівым выключэннем нават сярод важкіх тамоў Збору твораў, якія выходзіў у 70—80-я гады. На сёння, маючы энцыклапедычны даведнік «Янка Купала» (Мн., 1986), факсімільныя выданні першых зборнікаў паэта, цудоўныя юбілейныя выданні і шэраг іншых, мы, на жаль, пакуль што не маем поўнага збору твораў Купалы.

Паэму «На Куццю» Янка Купала напісаў у Пецярбургу 14 снежня 1911 года. Была надрукавана 22 снежня таго ж года ў «Нашай ніве» і ўвайшла ў зборнік «Шляхам жыцця» (СПб, 1913). Паводле жанру твор гэты набліжаецца да героіка-рамантычнай паэмы. Стылявыя і рытмічныя формы, прыёмы псіхалагічнай характарыстыкі, маштабнасць, патрыятычная афарбоўка, маналог выводзяць яе за межы беларускай вершаванай аповесці сярэдзіны XIX—пачатку XX стагоддзя. Напрыклад, раннія Купалавы творы — «Адплата кахання» (1905—1908), «Нікому» (1906), «Зімою» (1906), «Калека» (1907) — яшчэ толькі прыёмамі тыпізацыі набліжаюцца да паэмнага жанру, знаходзяцца на памежжы вершаванай аповесці і паэмы, у іх адчуваецца спадкаемнасць рамантычных традыцый польска-беларускай літаратуры XIX стагоддзя — Ю. Славацкага, А. Міцкевіча, У. Сыракомлі, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча і іншых.

Паэма «На Куццю» кампазіцыйна складаецца з 12 раздзелаў, дзе паслядоўна пры дапамозе яскравых каларытных вобразаў і сцэн раскрываецца сюжэт. Твор гэты можна назваць паэмай-варажбой (у Купалавай спадчыне ёсць багата падобных рэчаў — вершаў-праклёнаў, вершаў-галашэнняў, вершаў-заклікаў, вершаў-пратэстаў — «Годзе», «Смейся!..», «Чужым», «Брату-беларусу» і іншыя), бо напярэдадні Каляд і вадохрышча — на Куццю — не толькі паміналі за жалобным сталом нябожчыкаў, але ў традыцыйным рытуале вячэры яшчэ прысутнічалі і элементы засцерагальнай магіі — варажбы,— калі варажылі пра будучы ўраджай і змены ў асабістым лёсе. Паэт нездарма звяртаецца да гэтага абраду. Дарэвалюцыйны Купала ўвесь у варажбе пра лёс беларускага народа, паэт у паняверцы, паэт, як і народ, на раздарожжы:

*Стаім мы перад будучынай нашай*
*І ўсё варожым, сочым яе ход...*
*Ці ўваскрэснем мы з душой упаўшай, звяўшай,*
*Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...*
*«Перад будучынай» (1922).*

Так, Купала на працягу некалькіх дзесяткаў гадоў быў галоўным дойлідам нацыі, ён стварыў яе, фарміраваў яе свядомасць, даў ёй творы сусветнага ўзроўню, чым і вывеў беларусаў «на свет цэлы». Але ён увесь час баяўся за свой «стоптаны на пясок», «аграблены з гонару й кашулі» народ, хоць той і «зразумеў і ўспомніў» Беларушчыну, але яшчэ «блудзіць удзень» і прыслухоўваецца, *«які павеяў вецер на загоны — Заходні, ўсходні й ці ад нас, ці к нам?»*, не ведае, якім прарокам верыць, за якімі павадырамі ісці. У паэме «На Куццю» ў якасці духоўных лідэраў нацыі Купала выводзіць князя і князёўну, Старую Беларусь, што на здрузгацелым спапялёным замчышчы

*...Куццю*
*На старасвецкі лад спраўляюць.*
*Даўно бываламу жыццю*
*Дары належныя складаюць.*

Дух князя — носьбіта і захавальніка беларускай нацыянальнай ідэі — пасылае сваіх ганцоў з мінулага ў сучаснасць, каб яны праведалі, як жыве там народ. Вобразы іх надзвычай цікавыя і ў пазнейшыя часы будуць далей распрацоўвацца Купалам. Хто ж яны, гэтыя ганцы? Прарок-асветнік, ваяк і гусляр. Яны вяртаюцца са звесткамі, што народ беларускі жывы, хоць і паняволены, але духоўна не скораны і патрабуе аддаць яму «схаваныя-расхапаныя» сонца, славу, песню. Даведаўшыся пра гэта, дух князя выказвае наступнае прароцтва пра будучыню нашага народа:

*...Ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны,*
*Раз хочуць сонца, славы, песні...*

і хоць

*На дзеле — кожны йшчэ слугой,*
*У думках — вольныя ўжэ людзі;*
*Над сэрцам іх, над іх душой*
*Наш дух лунаці вечна будзе —*

гэта пра неўміручасць беларускай нацыянальнай ідэі і што яна ёсць аснова нашай будучыні.

Князь дае ганцам наказ:

*...Ўсе пагранічныя капцы*
*Абходзьце зноў з маім прыветам.*
*Гуслямі, лукам і святлом*
*Будзіце, клічце і свяціце*
*І так спануйце іхнім сном,*
*Каб сон іх счэз і ўсталі жыці...*

і заклікае:

*...А чарку першую ўзнясём*
*За цень мінуўшчыны ў сецї,*
*Другой к цяпершчыне прап'ём,*
*Праславім будучыну трэцяй.*

28 жніўня 1919 года, праз сем з паловай гадоў пасля напісання паэмы «На Куццю» Купала, устрывожаны лёсам Бацькаўшчыны, у вершы «Паўстань з народу нашага...» у роспачы заклікае-моліць Прарока, Песняра, Ваяка і Уладара быць гаспадарамі свайго лёсу і зямлі, ісці пад беларускі сцяг ратаваць Беларусь.

Якія надзённыя ўсё ж словы Купалы і сёння!

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

*ЗАМЕЖНЫ ДЭТЭКТЫЎ*

Раймонд ЧАНДЛЕР

# Я БУДУ ЧАКАЦЬ

*Па прапанове чытачоў мы вырашылі зноў друкаваць невялікія творы перакладной вострасюжэтнай прозы, галоўным чынам дэтэктывы. Дэтэктывы сталі вельмі значнай часткай чытання практычна ўсюды ў свеце і з гэтым варта лічыцца. Лічыцца і ў тым сэнсе, каб своечасова папярэдзіць асабліва наіўных ад спажывання нізкаякаснага бульварнага чціва, якое не толькі крадзе час, але і псуе густ. Вы заўсёды акажацеся ў выйгрышы, калі навучыцеся заўважаць і паважаць сапраўдных майстроў мастацкага слова, якія адчуваюць сваю адказнасць за чалавека, а такія ёсць і сярод аўтараў дэтэктыўнай прозы. Адзін з іх, несумненна, Раймонд Чандлер (1888—1959), амерыканец (нарадзіўся ў Чыкага), які атрымаў грунтоўнае англійскае выхаванне і адукацыю. Бліскучы стыліст, ён любіў і ведаў амерыканскі слэнг — практычна новую мову маладой нацыі і па-майстэрску выкарыстоўваў яе ў сваіх творах. Нездарма ніводзін сучасны фразеалагічны слоўнік англійскай мовы (тым больш амерыканскага слэнга), як адзначаюць даследчыкі, не абыходзіцца зараз без цытат з твораў Р. Чандлера, а ягоныя кнігі ўваходзяць у праграму абавязковага чытання па курсу амерыканскай літаратуры ва універсітэтах ЗША.*

Было а першай гадзіне ночы, калі Карл, начны парцье гатэля «Уіндэрміер» пачаў тушыць святло ў холе. Блакітны кілім адразу пацямнеў на некалькі тонаў: паўзмрок запаланіў крэсла прывіднымі ценямі і ахутаў змрочныя вуглы павуціннем успамінаў.

Дэтэктыў Тоні Рэзэк пазяхнуў. Схіліўшы галаву на плячо, ён лянiва прыслухоўваўся да ціхай і хвалюючай музыкі, што даносілася з музычнага салона. Раптоўна пачуўся староннi гук. Тоні незадаволена нахмурыўся. Пасля гадзіны ночы хол належаў толькі яму, і ніхто не мог адабраць у яго гэтае права. Але рыжавалосая дзяўчына ўносіла элемент дысгармоніі ў звычны парадак...

Ледзь чутна ступаючы, Тоні накіраваўся пад арку, адкуль даносілася музыка. Цяпер у яе гуках чулася штосьці пякучае і ап'яняючае.

Рыжавалосая дзяўчына нібы зачараваная не зводзіла вачэй з дынаміка, быццам перад ёй граў сапраўдны аркестр. Яе губы былі складзены ў загадкавай паўусмешцы. Яна сядзела на канапе, па-турэцку падцягнуўшы пад сябе ногі, пасярод вялікай колькасці падушак і выглядала букецікам на вітрыне магазіна кветак. Сядзела, абхапіўшы калена колеру спелага персіка. На ёй быў шоўкавы жакет, расшыты чорнымі бутонамі лотаса і ўпрыгожаны стужкамі.

— Вам падабаецца Гудмэн, міс Крэсі? — спытаў Тоні Рэзэк.

Яна не прамовіла ні слова. Тоні сціснуў і растапырыў пальцы.

— Вам падабаецца Гудмэн, міс Крэсі? — мякка паўтарыў ён пытанне.

— Не настолькі, каб даводзіць мяне да слёз,— адказала дзяўчына.

Тоні пагойтаўся на абцасах і паглядзеў ёй у вочы: вялікія, глыбокія, пустыя. Ён нахіліўся і выключыў радыё.

— Не зразумейце мяне няправільна,— сказала дзяўчына.— Гудмэн зарабляе грошы, а ў наш час чалавек, які гэта робіць, не парушаючы закона, заслугоўвае павагі. Але гэта ўзвінчаная музыка здаецца мне халоднай. Я аддаю перавагу гарманічнаму.

— Тады вам павінен падабацца Моцарт,— сказаў Тоні.

— Ладна, працягвайце здзекавацца,— сказала дзяўчына.

— Я зусім не здзекуюся, міс Крэсі. Я мяркую, што Моцарт найвялікшы з людзей, што жылі на свеце, і Тасканіні прарок ягоны.

— А я думаю, вы звычайны лягавы.— Яна паклала галаву на падушку і з цікавасцю паглядзела на яго скрозь доўгія вейкі.— Зрабіце мне крыху гэтага Моцарта.

— Ужо вельмі позна,— уздыхнуў Тоні.— Я яго не знайду.

Яна змерала яго доўгім, загадкавым позіркам.

— Сочыш за мною, шызік? — Яна ціхенька засмяялася.— Што я такога зрабіла?

Тоні ўсміхнуўся на ўвесь рот, як клоун.

— Абсалютна нічога, міс Крэсі. Але вам трэба на свежае паветра. Вы ўжо пяць дзён жывяце ў гэтым гатэлі і ні разу не выходзілі на вуліцу. А нумар у вас на самым версе.

Яна зноў засмяялася.

— Ну, давай, раскажы што-небудзь гэткае, а то мне сумна.

— Аднойчы прыехала сюды дзяўчына. Цэлы тыдзень жыла, зусім як вы. Я хачу сказаць, не выходзіла нікуды. Амаль ні з кім не размаўляла. І вы думаеце, што яна зрабіла?

Дзяўчына ўважліва паглядзела на Тоні.

— З'ехала, не заплаціўшы па рахунку? — Яна выцягнула руку і павольна пагойдала ёю ў паветры, быццам гэта была лодачка пасярод хваляў.

— Добра б! Яна папрасіла, каб ёй прыслалі рахунак, заплаціла. Потым загадала пасыльнаму зайсці за чамаданамі праз паўгадзіны. І выйшла на балкон...

Дзяўчына крыху нахілілася наперад, вочы яе сталі сур'ёзнымі, рука замерла на персікавым калене.

— Як ты сказаў, цябе клічуць?

— Тоні Рэзэк.

— Яўрэй?

— Так,— адказаў Тоні.— Польскі.

— Расказвай далей, Тоні.

— У кожным нумары свой балкон, міс Крэсі. Занадта нізкія парэнчы для чатырнаццаціпавярховага будынка. Ноч была цёмная. Як яна скочыла, ніхто не бачыў...

— Ты ўсё прыдумаў, Тоні.— Яе голас перайшоў у сухі шэпт.

Ён зноў усміхнуўся, як клоун. У ягоных спакойных зеленаватых вачах адлюстраваліся хвалі яе валасоў.

— Ева Крэсі,— задумення прамовіў ён.— Імя, якое павінна быць напісана промнем святла.

— А цяпер яна чакае высокага брунета, ні навошта непрыгоднага, Тоні. І ты ніколі не зразумееш, які ў гэтым сэнс. Калісьці я была ягонай жонкаю. Магчыма, гэта яшчэ і не канец. За адно кароткае жыццё можна зрабіць нямала памылак.

— Пальцы яе рукі, што ляжалі на калене, растапырыліся, потым з сілаю сціснуліся ў кулак. Нават пры гэтым няпэўным святле кожны сустаў блішчаў, нібы фігурка са слановай косці.— Я калісьці кепска з ім абышлася. Пакрыўдзіла яго, ненаўмысна. Табе гэтага таксама ведаць не трэба. Усе справа ў тым, што я яму вінаватая.

Тоні нахіліўся і ўключыў радыё. У цёплым паветры пачуліся гукі вальса. Які-ніякі, але вальс. Ён зрабіў грамчэй. З дынаміка пырснула мелодыя, поўная фальшывага смутку. З той пары, як старой Вены ўжо няма, вальс заўсёды выклікае смутак.

Дзяўчына нахіліла галаву, паспрабавала падпяваць, але пасля некалькіх тактаў замерла з паўраскрытым ротам.

— Ева Крэсі,— сказала яна.— Гэтае імя свяцілася ў небе. Над начным клубам для бадзяг. Над прытонам. Пасля аблавы літары згаслі.

Ён жартаўліва падміргнуў ёй.

— Які ж гэта прытон, калі там выступалі вы, міс Крэсі. Аркестр заўсёды выконваў гэты вальс, калі стары швейцар тупаў узад-уперад перад уваходам у гатэль, дзынкаючы сваімі медалямі. «Апошняя ўсмешка». Эміль Джэнінгс. Гэта вам, канешне, ужо нічога не гаворыць, міс Крэсі.

Ён зрабіў тры крокі да выхаду, павярнуў галаву.

— Я павінен праверыць, ці ўсе дзверы зачынены. Спадзяюся, не вельмі вам надакучыў. Вам час спаць. Даволі позна.

Вальс скончыўся, і пачуўся голас дыктара. Дзяўчына паспрабавала яго перакрычаць.

— Адносна балкона ты ўсё прыдумаў?

Ён пагадзіўся. — Магчыма. Больш не буду.

— Наўрад, Тоні.— Яе ўсмешка была, нібы апаўшае лісце.— Падыдзі яшчэ калі, пагавары са мной. Рыжанькія не выкідваюцца з вокнаў, Тоні. Яны чакаюць і старэюць.

Ён уважліва паглядзеў на яе ў апошні раз і пайшоў па блакітнаму кіліму.

Пад аркаю, што вяла ў галоўны хол, стаяў швейцар. Тоні яшчэ не глядзеў туды, але ўжо ведаў, што там нехта ёсць. Ён заўсёды адчуваў, калі нехта быў побач. Ён чуў, як расце трава, быццам асёл з «Сіняй птушкі».

Швейцар зрабіў яму знак падбародкам. Потны твар над форменным каўнерыкам выглядаў узрушаным. Тоні падышоў да яго, яны разам прайшлі пад аркай і ступілі ў цёмны хол.

— Ёсць праблемы? — стомлена спытаў Тоні.

— Там звонку тырчыць нейкі тып, пытаецца цябе. Заходзіць не хоча. Я стаю, праціраю вокны, раптам ён падыходзіць, такі высокі... «Пакліч-ка сюды Тоні»,— гаворыць, а сам зыркае па баках.

— Зразумела,— сказаў Тоні і ўважліва паглядзеў у вадзяністыя вочы швейцара.— Хто гэта быў?

— Ён сказаў — Эл.

Твар Тоні замкнуўся.

— Добра.

Ён рушыў да выхаду. Швейцар схапіў яго за рукаў. — Слухай, Тоні, у цябе ёсць ворагі?

Тоні ветліва ўсміхнуўся, захоўваючы ўсё той жа выраз твару.

— Слухай, Тоні...— Швейцар не адпускаў ягоную руку.— Там стаіць чорная машына, вялізная, за квартал адсюль, насупраць піўной. Побач з ёй бамбіза, сам звонку, а нагу трымае на педалі. А той, што пра цябе пытаў, у такім плашчы, вялікім, цёмным, каўнер узняты да самых вушэй. І капялюш насунуў. Твару не відаць... Кажа мне: «Пакліч-ка сюды Тоні!» І зыркае па баках. У цябе праўда няма ворагаў, Тоні?

— Хіба што ў падаткавай інспекцыі,— сказаў Тоні.— Знікні!

Злева — тры ліфты, справа — канторка. З трох ліфтоў працуе адзін. Каля адчыненых дзвярэй моўчкі стаіць начны ліфцёр у чысценькай уніформе з серабрыстымі галунамі. Мексіканец па прозвішчу Гамес. Навенькі, першую ноч дзяжурыць.

Тоні прамінуў газетны кіёск і, прайшоўшы міма аптэкі, апынуўся каля дзвярэй з меднымі ручкамі і вялікім шклом у нікеліраванай раме. Ён на імгненне затрымаўся перад сваім адлюстраваннем і, глыбока ўздыхнуўшы, выпрастаў плечы, штурхнуў дзверы і выйшаў на вільготнае, халоднае паветра.

Чорная машына стаяла метраў за дваццаць. Свяціліся падфарнікі і чулася слабае вурчанне матора. Ад машыны аддзялілася высокая фігура. Трымаючы рукі ў кішэнях, да Тоні набліжаўся чалавек у цёмным плашчы. У зубах тлеў акурак.

На адлегласці двух крокаў адзін ад аднаго абодва спыніліся. Чалавек у плашчы сказаў:

— Прывітанне, Тоні, даўно не бачыліся.

— Прывітанне, Эл. Як справы?

— Не скарджуся.

Чалавек у плашчы пачаў быў выцягваць руку з кішэні, але спыніўся і ненатуральна засмяяўся.

— Зусім забыўся. Ты ж, відаць, не падасі мне цяпер рукі...

— Гэта ні да чаго не абавязвае,— сказаў Тоні,— падаваць руку ўмеюць і малпы. Чаго ты хочаш, Эл?

— Падабаецца табе работа?

— Работа як работа.

Эл зноў ціхенька засмяяўся. — Не мітусіся, Тоні. Значыць, работа як работа... Ладненька. Тут у цябе жыве птушка адна, Ева Крэсі. Пырхала, пырхала і заляцела ў тваю спакойную начлежку. Няхай яна выйдзе. Прама зараз і хуценька.

— А што здарылася?

Чалавек у плашчы азірнуўся па баках. У машыне нехта кашлянуў.

— Ды так, жыве не па правілах. Нічога мы ёй не зробім, а табе будзе хрэнова. Няхай выйдзе. Даём табе гадзіну.

— Ладна,— сказаў Тоні неяк няўцямна.

Эл выцягнуў руку з кішэні і лёгка таўхануў Тоні ў грудзі. — Я з табою не жартую, таўстунок. Няхай выходзіць!

— Ладна,— паўтарыў Тоні з каменным выразам твару.

— Слухай мяне ўважліва, Тоні. Ты заўсёды хацеў быць чысценькім. Так, брацік?

Тоні прамаўчаў.

Эл нахіліўся да яго зусім блізка. — Тут справа цёмная, Тоні. Хлопцы не хочуць, каб я ўсё расказваў, але табе трэба, па-мойму, ведаць. Гэта Ева была замужам за хлопцам па імені Джоні Ролс. Нядаўна Джоні выйшаў з Сэнт-Квенціна. Цягнуў там тэрмін за непраднамеранае забойства. Гэта з-за яе ён сеў... Ехаў з ёю ў машыне. Збіў, паддаты, прахожага і не спыніўся. Яна пасля яму кажа: «Ідзі прызнавайся, а то сама пайду». Ён не пайшоў, але яго забралі.

— Спачуваю,— сказаў Тоні. Голас ягоны прагучаў хрыпла.

Эл засмяяўся. — Ды гэта не ўсё, Тоні. Нават не галоўнае. Словам, з ім хочуць пагаварыць крутыя хлопцы. У Джоні быў пракол у адной хаце. Ён і яшчэ адзін казёл змыліся і забралі з сабою пяцьдзесят штук. Дружка ягонага падкалолі, цяпер чарга за самім. Усёк? Яго чакаюць тут, каля ягонай рыжанькай. Цяпер усёк?

— Я тут прычым? — Тоні нервова азірнуўся.— Перадам ёй, каб выйшла.

— Малаток, усё зразумеў. Як там мама? — Эл рушыў да машыны, спыніўся.

— Нармалёва,— сказаў Тоні.

— Перадай ёй, што я пра яе пытаўся.

— Пытацца — гэта яшчэ не ўсё,— сказаў Тоні.

Эл рэзка павярнуўся і сеў у машыну. Машына быццам нехаця кранулася з месца і стала набіраць хуткасць. Тоні глядзеў ёй услед, аб чымсьці думаў. Потым паціснуў плячыма і рушыў у гатэль.

Радыёпрыёмнік яшчэ працаваў, але дзяўчыны ўжо не было. Тоні выключыў радыё, пастаяў каля вазы для попелу з белым пяском і пакрочыў да ліфта. Дзяжурны за канторкай з усяе моцы змагаўся са сном. Паветра было густым і цяжкім. Каля ліфтоў быў паўзмрок. Табло высвечвала лічбу «14», значыць, ліфт на чатырнаццатым паверсе. Дзверы ў пакойчык парцье адчыніліся і адтуль выйшаў ліфцёр-мексіканец. Ён ужо зняў форму. Яго чорныя вочы сустрэліся з позіркам Тоні.

— Дабранач, начальнік.

— Ага,— кіўнуў Тоні і дастаў з кішэні сігару. Панюхаў і, спахмурнеўшы, схаваў зноў.

Зверху пачуўся гук. На табло замільгалі лічбы. Кабіна ліфта апусцілася на пляцоўку. Адчыніліся дзверы і з ліфта выйшаў Карл.

— Слухай, Тоні...— у ягоных вачах была збянтэжанасць.

— Дзе? — Горла Тоні сціснуў спазм.— Адкуль ты?

Парцье паказаў долар.— Вось што мне далі.— За паслугі ў дзве гадзіны ночы...

— А ну дыхні!

— Ну, выпіў глыток-другі... Гэты хлопец і пачаставаў. Нумар 14-Б.

— Па маіх звестках, у нумары 14-Б ніхто зараз не жыве.

— Пад пахаю ў яго пушка,— сказаў Карл і міргнуў.

— Згінь,— скрозь зубы працадзіў Тоні.— Каб больш не піў з пастаяльцамі.— Тоні не крануўся з месца, пакуль Карл не зайшоў у свой пакойчык побач з ліфтамі і не зачыніў дзверы. Тады ён накіраваўся да канторкі і пастукаў далонню па мармуровай пліце. Дзяжурны выскачыў з-за матавай перагародкі, нібы вавёрка са свайго дупла.

*Заканчэнне ў наступным нумары.*

*Пераклад з англійскай.*

# Калядная песня

На новае лета
Радзі, Божа, жыта.
Шчодры вячор,
Багаты вячор!

Жыта, пшаніцу,
Усяку пашніцу,
Шчодры вячор,
Багаты вячор!

Дай табе, Божа,
Пане гаспадару,
Шчодры вячор,
Багаты вячор!

Піва варыці,
Сынкоў жаніці,
Шчодры вячор,
Багаты вячор!

Гарэліцу гнаці,
Дачок аддаваці,
Шчодры вячор,
Багаты вячор!

Залезь на баляску
І дастань каўбаску,
Шчодры вячор,
Багаты вячор!

Стань на драбінку
І дастань сланінку,
Шчодры вячор,
Багаты вячор!

Кошычак маку
Да таго прысмаку,
Шчодры вячор,
Багаты вячор!

## Пачутае «У Лявона»

Даслужыўся салдат да яфрэйтара і напісаў пра гэта старэнькай маці ў вёску. Маці прачытала і адразу ж напісала яму ліст у адказ:

— Ты ж глядзі, сынок, цяпер хоць сваіх генералаў не крыўдзі.

* * *

Калі амерыканцы высадзіліся на Месяцы, Брэжнеў паклікаў у Крэмль сваіх касманаўтаў і сказаў:

— Амерыканцы на Месяцы. Трэба пераплюнуць іх. Мы тут параіліся і вырашылі пасляць вас на Сонца.

Касманаўты захвалявяліся:

— Мы ж згарым!

— Вы думаеце, што ва ўрадзе дурні сядзяць? Ноччу паляціце.

* * *

У Міколы, у якога хварэла жонка, спыталіся:

— Як здароўе вашай жонкі?

— Дзякую, зараз адчувае сябе значна лепей: ужо і лаяцца памаленьку пачынае...

* * *

Спатыкаюцца сяброўкі і дзеляцца, хто і як правёў навагоднюю ноч.

— Ірына, дзе вы сустракалі Новы год?

— Ох, як заўсёды, у пасцелі...

— Цікава... І шмат было народу?

**************************************

ЗАКОНЧЫЎСЯ ПАЛЁТ НАД ПРОРВАЙ!



*Афарызмы*

### Душан РАДАВІЧ

**Пераважная большасць... Гэта можа складсціся толькі з абыякавых. Іх найболей.**

**Няма праўды: з тысячы нязадольных толькі адзін міністр.**

**«Філосафы не ведаюць некаторых асноўных рэчаў» — так сцвярджаюць тыя, хто ведае толькі некаторыя асноўныя рэчы.**

**Здаровыя малпы засталіся малпамі. Продкі чалавека былі дэкадэнтамі.**

**Хто не ведае, што рабіць з сабою, няхай займаецца іншымі.**

**Просьба да айчынных пісьменнікаў не пісаць болей. Мы яшчэ і папярэдняга не прачыталі.**

**Хутка стануць даражэйшыя газеты.**

**Сорамна, што яны яшчэ ні разу не падаражэлі з-за зместу, а заўсёды і толькі з-за кошту паперы.**

**Чалавек вучыцца, пакуль жыве. Найбольш мог бы навучыцца ад смерці, ды звычайна тады ўжо позна.**

**Пераклаў з сербскахарвацкай Іван ЧАРОТА.**

# Смех таксама лечыць

У гэтай калонцы, як памятаюць нашы пастаянныя чытачы, мы звычайна змяшчаем раздзел звестак пад рубрыкай «Народная лякарня». Але ж сённяшні нумар газеты асаблівы — навагодні. Хто ж на такое свята будзе разважаць пра хваробы. Хіба што той-сёй заікнецца аб папярэднім залішнім падпітку, наступствы якога невядома чым лячыць. Жонка кажа — капусным сокам ці кіслым малаком, а прыяцель-спакуснік схіляе да келіха гарэлкі. Ну, а калі, барані Божа, сапраўды хворы, то і пасмяяцца ўжо нельга? Наадварот. Чыталі ж, мабыць, у нашай «Гісторыі ў анекдотах», як адзін шляхціц нечакана акрыяў? Урачы вырашылі — капцы васпану, а чэлядзь і ўсчала навыперадкі хапаць ягоныя пажыткі. Ды так заўзята, што спакусіліся на «прыхватызацыю» нават самыя адданыя і бескарыслівыя сябры гаспадара — дурненькія малпачка з сабачкам. Усё ўмомант загрэбла чэлядзь, толькі і засталася падушка ў гаспадара пад галавой. Яе і выхапіла малпачка. А сабачка пачаў з шалёным брэхам адбіраць здабычу сабе. Ад дзікага ляманту непрытомны перад тым гаспадар нават ачнуўся, а ўгледзеўшы ў чым справа, мужны чалавек (рыцар жа!) засмяяўся. Ад таго, о дзіва, выкараскаўся з ледзяных абдымкаў Кашчавай, ачуняў. Нічога, аказваецца, неверагоднага. Яшчэ ў мінулым стагоддзі вучоны з Германіі доктар Гуфелянд вызначыў, што з усіх чалавечых рухаў смех ёсць самы здаровы: ён спрыяе дзейнасці страўніка, кровазвароту і бадзёрыць увесь арганізм. А нарвежскі ўрач Карл Родал звярнуў увагу на тое, што смех не толькі ўмацоўвае мышцы груднной клеткі і жывата, але паляпшае дзейнасць нырак, актывізуе абмен рэчываў. У дадатак «весялей» працуюць печань і падстраўнікавая залоза. Амерыканскі ж вучоны У. Фрай знайшоў, што смех памяншае і празмерны ціск крыві, а таксама здымае галаўны боль. Смех паслабляе стрэсы і няўпэўненасць перад будучыняй.

Словам, каму, як не беларусам, гэтае лякарства ці не самае патрэбнае.

Пераходзячы з часоў мінулых, ад таго занямоглага васпана, у якога дворня толькі падушку з-пад галавы і не «прыхватызавала», успомнім, як вышэйшыя слугі хворай Беларусі напярэдадні Новага года, зачыніўшыся ад надакучлівых журналістаў у Авальнай зале, усчалі чарговую разборку — хто больш нахапаў народнага дабра і што лепей: патаемна, але многа красці ці адкрыта бессаромна грабіць, і дзе мяжа паміж гэтымі паняццямі. Плакаць ад гэтага ўсяго грамадзянам Беларусі ці смяяцца? Вось тут самы раз успомніць, як той шляхціц часоў Жыгімонта Старога аздаравеў. А неўзабаве накіраваў, мякка кажучы, усю сваю ранейшую чэлядзь свіней пасвіць. Беларусь пачынае не толькі абурацца, але і смяяцца. Значыць, дасць Бог, ачуняе. А тады неўзабаве выбера сабе новых слуг па тых правілах, што паказалі сваю дзейнасць ва ўсіх здаровых нацыях. Праўда, і там час ад часу расказваюць анекдоты пра сваіх вышэйшых слуг, якіх называюць парламентарыямі, але аб тым наступным разам, а цяпер прывядзём хіба толькі пару іранічных выразаў аўтарытэтных грамадскіх дзеячаў пра палітыку. Ну як зараз абысціся без яе! Нават на Новы год.

*ПАЛІТЫКА — гэта мастацтва пошуку перашкод, стварэння іх незалежна ад таго, існуюць яны ў прыродзе ці не, пастаноўкі памылковага дыягназу і прымянення не таго лякарства.*

**Сэр Эрнэст БЭН,**
**англійскі эканаміст і літаратар.**

*ПАЛІТЫЧНАЕ МАЙСТЭРСТВА заключаецца ў здольнасці прадказваць, што адбудзецца заўтра, праз тыдзень, праз месяц, у наступным годзе. А затым тлумачыць, чаму гэтага не здарылася.*

**Сэр Уінстан ЧЭРЧЫЛЬ,**
**былы прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі.**

*ЭПІГРАМА-93*

### Ніл ГІЛЕВІЧ

**ПАРАДА**

Пра камергерскі знак на
стужцы марачы,
Адрынь свой герб, браток,
і не тужы.
Адно — нідзе нікому не кажы,
Што род твой з век-вякоў
хрысціўся ў Нарачы.

**НАШЫ ДАСЯГНЕННІ**

Гляджу экран —
І грудзі гонар поўніць:
Мы дасягнулі ўсё ж
Рэкордных вынікаў!
Ніхто —
Ні грэк, ні турак, ні японец —
Не мае столькі
Пашлякоў і цынікаў!..

*ПАРОДЫІ*

*Г. ЮРЧАНКА*

## Прамы шлях

*Пішу я верш,*
*бы з пекла ў рай іду я...*
*Мечыслаў ШАХОВІЧ.*

Сцяблінкі-ножкі водарнай травы.
Дзяўчаты-ліпкі і бярозкі-свечкі.
Глядзяць хмурынкі з высі-сінявы.
Бягуць да ўзлеску валуны-авечкі.

Хвалюе сэрца пчолак гоман-грай.
І вішня-вочка ў засені даспела.
Чытаеш верш — нібы ляціш у рай.
А прачытаў — нібы папаў у пекла...

## Не дзе дзенешся

*З маленства сілу слова знаю —*
*Заклён, прысуха, варажба.*
*Зінаіда ДУДЗЮК.*

Таемны шолах звонкай страсці
Тугія мроі пераплёў.
Няхай салодкі дотык шчасця
Кружляе ў водары палёў.

Юнацтва ластаўкай вясновай
Дазвання цішу развіне.
Я знаю палкай сілы словы,
Табе не збегчы ад мяне!

## Сідарынкі

Бегемота цацачнага
ўгледзеў
тыдні два пра Конга разважаў

Ападае лісце
ападае
хоць бы слова ад яго пачуць

Іду — баліць
сядаю — не
вунь там антыкварная лаўка

Пахнуць крокі салодка
гадзіннік вісіць
без гіры

У змроку адчаю
няўлоўна ўздыхнула
імгненне

Ненапісаны ліст
мне даслала таполя
пяць дзён чытаў

Думаў пра вечнасць
ліў у шклянку віно
а гэта пальчаткі

Пыху ліхтара
не змераць качаргою
лічыць сябе в. а. сонца

## Верацілінкі

тры на пяць — пятнаццаць
тры на дзесяць — трыццаць
журавы ў вырай
сумна без лучыны

попел на загнеце
кросны не датканы
сумна па асоце
бегчы басанож

дождж збіраўся пайсці
перадумаў
чысты аркуш паперы
кіруе рака да мора

пайду да рэчкі
вады зачэрпну
лезе гарбуз на пляцень
шчасцю няма канца

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**7 СТУДЗЕНЯ, ПЯТНІЦА**

11.00. Студыя «Тэлесябрына». Каляды. Беларусь. Свет.
13.20. Існасць. Калядная праграма.
14.20. Студыя «Тэлесябрына». Каляды. Беларусь. Свет.
15.35. ПІК прадстаўляе: Навагодні вінегрэт.
16.55. Запрашаем на вячоркі.
18.00. Студыя «Тэлесябрына». Каляды. Беларусь. Свет.
19.15. Падарункі — дзецям.
21.00. Панарама.
22.35. Калядны баль у Бярозе.

**8 СТУДЗЕНЯ, СУБОТА**

12.45. Тэлебом. Выступленне лаўрэатаў шоу-конкурсу.
14.25. «Слава ў Вышніх Богу...» Трансляцыя з Менскага Свята-Духава кафедральнага сабора.
18.05. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». Пяць гадоў у эфіры.
21.00. Панарама.

**9 СТУДЗЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

13.25. Кінаэкран-94. Студзень.
18.00. «Гінес-шоу».
18.30. З панядзелка... Калядныя сустрэчы.
19.10. «Радавод». Палескія калядкі.
20.00. Панарама.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 55.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.

Наклад 8900 паасобнікаў. Падпісана ў друк 3.1.1994. у 15 гадзін.